PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 25 (1884) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 21 ЧЭРВЕНЯ 1992 г. ЦАНА 1500 зл.




У суботу 6 чэрвеня «Газета выборча» паінфармавала, а за ёю ў панядзелак 8 чэрвеня паўтарыла беластоцкая прэса, што ў Гайнаўцы беларускі ліцэй будзе пераведзены ў будынак Беларускага музея.

Калі ў панядзелак 8 чэрвеня наведаў я гайнаўскі музей, старшыня Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы Канстанцін Майсеня рабіў па тэлефоне дзесятае ўжо абвяржэнне ў справе пасялення ліцэя ў Беларускі музей.

Сапраўды, ідэя спалучэння пабудовы новага будынка беларускага ліцэя з Беларускім музеем была, сказаў мне Канстанцін Майсеня, але ўся справа выглядае далёка не так, як гэта асвятліла польская прэса. У пятніцу 5 чэрвеня наведала наш Музей, гаварыў Канстанцін Майсеня, дэлегацыя ў складзе: віцэ-міністр культуры і мастацтва Польшчы Міхал Ягела, дырэктар Аддзела па пытаннях нацыянальных меншасцяў Дэпартамента культурнай адукацыі таго ж міністэрства Багуміла Бэрдыхоўская, віцэ-міністр культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімір Рылатка і гродзенскі віцэ-ваявода Мікола Калацэй. Спярша госці азнаёміліся з актуальным станам пабудовы Беларускага музея, а пазней адбылася сустрэча з Грамадскім камітэтам пабудовы. У часе гэтых перамоў віцэ-міністр Ягела дамагаўся перанесці беларускі ліцэй у будынак Беларускага музея. Прадстаўнікі Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея - Мікалай Мікалаюк, Ян Хіліманюк і Канстанцін Майсеня аднагалосна сцвердзілі, што ідэя такая неразумная і немагчымая ў рэалізацыі. Усе памяшканні Музея выкананы згодна з іх тэхнічна-рабочай дакументацыяй і, паслядоўна, непрыгодны для асветна-школьнай працы. Беларускі ліцэй у Гайнаўцы мае ўжо сваю тэхнічна-рабочую дакументацыю, у якой прадугледжанае ўсё неабходнае забеспячэнне для школьнай моладзі і персаналу. Цяперашні школьны пляц - самае адпаведнае месца для пабудовы новага будынка школы. Міністэрства нацыянальнай адукацыі прызнала дзеля гэтай пабудовы 7 мільярдаў злотых /апошнім часам, праўда, гаворыцца ўжо пра 5 мільярдаў/. Прайшоў таксама конкурс на выканаўцу пабудовы - перамагло ў ім Бельска-падляшскае будаўнічае прадпрыемства. Пабудова школы можа ўжо распачацца, а яе заканчэнне прадугледжваецца праз год.

Віцэ-міністр культуры Беларусі Уладзімір Рылатка сказаў, што нягледзячы на цяжкасці, з якімі змагаецца яго рэспубліка, Беларусь надалей будзе падтрымліваць пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы. У заканчэнні сустрэчы, сказаў Канстанцін Майсеня, дайшло да пагаднення паміж прадстаўнікамі Міністэрства культуры і мастацтва і Грамадскім камітэтам пабудовы Беларускага музея, у выніку чаго ёсць надзея на дафінансаванне, якое і закончыць пабудову Музея яшчэ ў гэтым годзе. У справе ж беларускага ліцэя, віцэ-міністр Ягела, выслухаўшы ўсе аргументы, сам прызнаў нерэальнасць ідэі спалучэння абодвух пабудоў. Дырэктар Багуміла Бэрдыхоўская запатрабавала яшчэ праграму загаспадаравання Беларускага музея. Старшыня Грамадскага камітэта пабудовы Канстанцін Майсеня абавязаўся прадставіць такую праграму на працягу трох месяцаў.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

## ДАПАМАГАЮЧЫ - НЕ РАЗДРАЖНЯЦЬ

**Галіна Кацярына Бялінская - кіраўнік фонду дапамогі дзецям з забруджанай радыяцыяй тэрыторыі Беларусі і Украіны «Нашым дзецям». Размаўляем у сядзібе фонду, на вуліцы Маршалкоўскай у Варшаве, у колішнім будынку Таварыства польска-савецкай дружбы.**

*- Скажыце, калі ласка, якія былі пачаткі?*

- Фонд узнік у жніўні 1990 года. З ініцыятывай яго заснавання выступіла я, як прыватная асоба. А думка пра такі фонд паявілася, калі лёс закінуў мяне ў Гомель. Я ўжо 18 год з'яўляюся правадніком рускамоўных груп турыстаў па Варшаве ды пілотам-гідам замежных экскурсій. У Гомелі шукала я новых турыстычных кантактаў. Тады, менавіта, спытаўся мяне хтосьці, ці немагчыма было б нейкім спосабам наладзіць дапамогу пацярпеўшым ад Чарнобыля дзецям - вядома, што такое цяпер Гомель. Вярнуўшыся дадому, знайшла я яшчэ некалькі дзівакоў, без грошай, за тое з цікавымі ідэямі, і супольна заснавалі мы наш фонд.

*- Але нейкую дапамогу вы, усё ж такі, атрымалі. Хаця б гэтае бюро ў цэнтры Варшавы.*

- Мы пачыналі зусім у іншым месцы - наймалі пакой на вуліцы Бжазовай. Я звярнулася з просьбай да Таварыства польска-савецкай дружбы /існавала тады яшчэ такая арганізацыя/ прыдзяліць нам памяшканне. Атрымала станоўчы адказ і 25 сакавіка мінулага года перайшлі мы на гэтае месца. Пакой маем бясплатна, ну, апрача, зразуме-

*працяг на стар. 5*

## ХТО ПАВЯДЗЕ ПАЛАНЕЗА?

Здаецца, набліжаецца час распродажу.

„Волгу" ўжо спусцілі, некаму з Гродзеншчыны. За невялікія грошы. А хто праз пару тыдняў будзе ездзіць на бэгэкатоўскім „паланезе"?

Акрамя „паланеза" ў БГКТ застаецца яшчэ шмат што для распродажу: „ныска", аўтобус, тэлевізар і відэакамера, гукаўзмацняльная апаратура... камп'ютэры (ажно мурашкі па скуры бегаюць ад гэтай думкі!)... Да восені, гэта значыць, да бэгэкатоўскага з'езда, пратрымацца можна. А потым — apres nous le deluge, як казалі калісь у Францыі (пасля нас хай і патоп, а цяпер яшчэ пажывем — нейк так перакладаецца гэтае іншамоўнае выслоўе).

Распрадаць сёе-тое, пэўна, давядзецца — не ўсё, што БГКТ закупіла апошнім часам, самааплочваецца. Калі няма грошай на штаты і чынш, дык навошта плаціць страхоўку за машыны? І з чаго?

Справа, аднак, у тым, колькі з гэтага распродажу выпадзе на падтрыманне мёртвай структуры БГКТ, а колькі — на падтрыманне беларускай ідэі? Нехта згуляў з беларусамі ў Польшчы ў паскудную гульню — даў грошы на развіццё беларускага руху ў цэлым, але асноўную суму перавёў на рахунак БГКТ. Як БГКТ разумее беларускі рух у Польшчы — паказала справа „Нівы". Тут БГКТ, а там увесь астатні рух. Калі „Ніва" сказала, што не хоча быць альбо тут, альбо там, а хоча быць звыш усяго гэтага (і тут, і там, і яшчэ ў нейкім іншым месцы — на вул. Суражскай 1, менавіта, як газета ўсіх беларусаў, а не толькі тых, для якіх свет сышоўся клінам на БГКТ ці на БДА), дык падняўся вэрхал. Хто, менавіта, мае кіраваць „Нівай" (у тым ліку: дзяржаўнай датацыяй для „Нівы") — рэдакцыйны калектыў ці Прэзідыум ГП БГКТ? „Ніву" ад бэгэкатоўскіх пасяганняў ратуе перш за ўсё тое, што датацыя на яе выдаванне ідзе асобна — „Ніва" трактуецца Міністэрствам культуры як асобнае беларускае мерапрыемства, незалежнае фінансава ад мерапрыемстваў БГКТ. І дзякуй Богу, бо інакш была б дылема — плаціць працаўнікам ГП БГКТ ці журналістам?. Я асабіста паўгода працаваў у ГП БГКТ (чатыры месяцы так званым інспектарам і два месяцы сакратаром), таму не маю ілюзій: БГКТ ратавалася б коштам ніўскіх штатаў. І не маю ілюзій наконт таго, што матэрыяльная самаліквідацыя БГКТ дасць нейкую карысць астатнім беларускім арганізацыям. Прададуць усё, але грошай ад гэтага ніхто не панюхае. Пра камп'ютэры я пісаў у папярэднім нумары — тут „Ніва" пра іх не забывае і спусціць з рук не дазволіць. Але пра самаходы ды іншыя ўспомненыя рэчы — не ведаю... Лёгка прыйшло, лёгка й пойдзе, мабыць.

Вррр... BKD 403K. Пакуль што „паланезам" з такім рэгістрацыйным нумарам ездзіць намеснік старшыні ГП БГКТ — між іншым, з дому на Варшаўскую 11 і назад. Куды гэтая машына паедзе праз пару тыдняў? І хто яе павядзе?

**ЯН МАКСІМЮК**

# НА МЯЖЫ

**РЭЛІГІЙНЫЯ ДЫЛЕМЫ**
**Частка XX**

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

У адным з папярэдніх адрэзкаў напісаў я, што ёсць людзі, якія, знаходзячыся ў царкве, не ўспрымаюць набажэнскага рытуалу так, як яго ўспрымаюць асобы глыбока рэлігійныя. Аднак ёсць пэўная сфера царкоўнага рытуалу, які аднолькава эмацыянальна і горача ўспрымаецца ўсімі людзьмі праваслаўнай прыналежнасці, а нават часта людзьмі з па-за праваслаўнага абсягу. Маю на думцы царкоўныя спевы. Ёсць у іх нешта такое, што чалавека ўзвялічвае, робіць яго лепшым, настрайвае альтруістычна, чыніць больш высакародным. Ніяк не забуду такога вось здарэння. Было гэта гадоў дзесяць таму назад у Белавежы. Ідучы адвячоркам па чароўнай вуліцы Белавежы, заўважыў адкрытыя дзверы царквы. Зайшоў я ў сярэдзіну. У царкве было пуста, а з кліраса лілія адна за адной царкоўныя песні. Пеўчых я не бачыў, але чуў іх дасканала. Здавалася мне, што песні плывуць проста з неба і што бяруць маё сэрца ў свае пяшчотныя, цёплыя далоні. Усё нутро царквы было напоўнена невымоўнай дабрыняй. Выйшаўшы з царквы ў змрок Белавежскага парку, я апынуўся ў настроі, у якім *не мог не пісаць*. І таму ў гэты вечар і ноч напісаў я каля дзесяці, як жа незвычайных для мяне, рэлігійных вершаў, якіх усё яшчэ не апублікаваў. Тады я зразумеў, што не можа быць паэта-атэіста, што кожны паэт — шукальнік Бога і што ў кожным з паэтаў жывуць рэлігійныя і язычаскія элементы.

Другім духоўным патрасеннем для мяне было маё знаходжанне ў царкве св. Мікалая ў Беластоку з нагоды візіту ў ёй рымскага папы Яна Паўла II. Я думаю, што прысутныя там людзі перажылі, кожны на свой спосаб, пабачанае і пачутае. Я асабіста перажыў найглыбей адспяванне сола, не ведаю, якім спеваком, тэксту „Ойча наш". Была гэта вяршыня вакальнага майстэрства. І гэтым разам здавалася мне, што песня зыходзіць з самага неба.

Даводзілася мне не раз слухаць спевы ў малавядомых і ўвогуле невядомых царкоўках і заўсёды яны мяне ўзрушалі. І думаю, што кранаюць яны большасць людзей незалежна ад іх веравызнання. І таму з вялікім здзіўленнем слухаў я словы аднаго тэолага, які каля паўгода таму назад выступіў у польскім тэлебачанні. Калі не памыляюся, называўся ён Яцэк Бохэньскі, з'яўляецца прафесарам тэалогіі і на працягу многіх гадоў жыве ў Швейцарыі. Прафесар доўга гаварыў аб любві да чалавека, аб хрысціянскай пакоры і аб неабходнасці талерантнасці паміж людзьмі і рэлігіямі. У канцы вядучы перадачу журналіст спытаў тэолага, дзе ён сябе ў свеце найлепш адчувае, а прафесар на гэта прыблізна так: „Wszędzie czuję się dobrze, no może z wyjątkiem świata islamskiego, no i tam gdzie rozlegają się ryki prawosławnych". Вядома, „ryki" — царкоўныя спевы. Пасля сказанага прафесарам-тэолагам, нешта ўва мне абарвалася. Чаго ж патрабаваць ад радавога каталіка, калі чалавек высокай еўрапейскай хрысціянскай культуры так разумее сужыццё веравызнанняў і так інтэрпрэтуе ідэю талерантнасці?

На шчасце, ёсць у розных рэлігіях, у тым і ў каталіцкай, іншыя людзі, і будзем верыць у іх добрую волю і іх высакародны ўплыў на шырокія веручыя масы.

А вяртаючыся да царкоўнай песні, прагну сказаць, што вельмі добрая думка прыйшла ў галаву нашаму дзеячу Мікалаю Бушко з Гайнаўкі, які ўжо шэраг гадоў арганізуе Фестываль царкоўнай музыкі. Як жа радасна, што ў сэрцы беларускага этнічнага абшару, у Гайнаўцы, праводзіцца такое духоўнае мерапрыемства, якое прыносіць гонар не толькі яго арганізатарам, але і ўсёй Праваслаўнай царкве ў Польшчы. Зрэшты, гонар гэты лажыцца таксама і на ўсіх беларусаў у Польшчы, якія, як дагэтуль, цвёрда прытрымліваюцца праваслаўя як сваёй першабытнай рэлігіі.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# З мінулага тыдня

**XIV Генеральны сход Федэрацыі праваслаўных маладзёжных арганізацый „Сындэсмас"** праходзіў нядаўна ў Маскве. Удзельнічалі ў ім дэлегаты каля 80 арганізацый з розных краін свету. У „Сындэсмасе" моладзь з Польшчы прадстаўляе Брацтва праваслаўнай моладзі. У Беластоку знаходзіцца сядзіба Бюро Сярэдняй і Усходняй Еўропы гэтай арганізацыі, якому шэфствуе **Уладзімір Місіюк**.

**У Ячне** каля Дубровы-Беластоцкай адбыўся народны фэст, суарганізатарам якога было Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Выступалі беларускія калектывы з Хільмонаў, Хільмонаў-калёніі, „Хлопцы-рыбалоўцы" і ансамбль „Гарадніца" з Гродна.

**Унія працы** — новая сацыял-дэмакратычная групоўка, якая нядаўна стварылася ў Варшаве. У склад Палітычнай рады ўвайшлі, між іншым, Пётр Галашэўскі, Міраслаў Ганущ, Артур Смулко і Януш Шыманскі з Беластока і Аляксандр Малахоўскі — пасол з Беластоцка-сувальскай акругі.

**У Чаромху**, на чыгуначную станцыю прыехалі два цягнікі, якія належаць былой Савецкай Арміі, з боепрыпасамі і хімічнымі і таксічнымі рэчывамі. Транспарт прыйшоў з Нямеччыны і меў быць адпраўлены ў Брэст, але беларускі бок замаруджваў справу. У выніку інтэрвенцыі Гранічнай стражы ажно на чацвертыя суткі 53 вагоны з небяспечным грузам падаліся далей на ўсход.

**„Паэзія і проза — на Усход ад Буга"** — так называецца XXIII Агульнапольскі дэкламатарскі конкурс, арганізаваны Ваяводскім аддзяленнем Таварыства Польшча — Усход. На ваяводскіх элімінацыях у Беластоку вылучэнне атрымала **Марыя Аліфер** з Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім.

**Кантрольна-прапускны пункт у Кузніцы** адправіў 120 грузавых аўтамашын з амерыканскай харытатыўнай дапамогай для Беларусі.

**І Агляд культуры польскіх крэсаў** адбыўся ў Сямяцічах і Мельніку. Прымалі ў ім удзел польскія калектывы з Гродна, Ваўкавыска і Вільні. Ваяўніча загучалі словы лідэра сямяціцкага аддзела Хрысціянска-нацыянальнага згуртавання (ЗХН) В. Такарскага, які, прамаўляючы да гасцей з-за ўсходняй мяжы, сказаў: „Тое зерне, якое вы засеялі на Крэсах, дасць плод. Дачакаем хвіліны, калі Рэчпаспалітая працягне да вас рукі і прытуліць сваіх улюбёных дзяцей".

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

**МЁРТВЫМ НЕ БАЛІЦЬ, ЖЫВЫМ ЖА — ГАНЬБА**

4 чэрвеня ў Курапатах сабраліся сваякі загінуўшых тут ад рук сталінскіх катаў жыхароў Беларусі. Людзі прыйшлі сюды не толькі, каб пакланіцца памяці бязвінна забітых, але і абараніць іх. Так, на жаль, знайшліся вандалы, якія апаганілі гэтае святое месца. Зруйнаваны мемарыяльны ўказальнік, на магілах ладзяць хмяльныя гульбішчы сучасныя герастраты і плачуць пад піламі прадпрыймальных вылюдкаў шматпакутныя курапацкія сосны.

**КАТОРЫЯ ТУТ ПАРЦЕЙНЫЯ, ЗЛАЗЬ!**

Сацыялагічны цэнтр пры Беларускім дзяржаўным універсітэце правёў даследаванне палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы. Згодна гэтаму апытанню каля 80 працэнтаў рэспандэнтаў лічаць, што ў цяперашнім крызісе вінаваты партыйна-дзяржаўны апарат. 64 працэнты выказалі думку аб неабходнасці тэрміновага прыняцця закона, які б забараняў былым партфункцыянерам займаць кіруючыя пасады. Партфункцыянераў маюць па дзве граматы, а 1,5 тысячы чалавек увогуле — ад 3 да 5.

**КЕБІЧ ПРАЕХАЎ У ГАРАДСКІМ АЎТОБУСЕ. З КАМФОРТАМ.**

Менскі аўтамабільны завод сумесна з нямецкай фірмай „Неаплан" пагадзіліся наладзіць выпуск камфартабельных аўтобусаў для патрэб нашай рэспублікі. Цікава, што правяраў якасць нямецкіх аўтобусаў сам прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч — ён праехаў у заходнегерманскай машыне праз усю плошчу Незалежнасці і быў вельмі задаволены камфартабельнасцю замежнай „маркі".

**НАРОД ПАВІНЕН ВЕДАЦЬ СВАІХ ГЕРОЯЎ**

Згодна праекту, распрацаванаму ў сакратарыяце Вярхоўнага Савета Беларусі, вышэйшай дзяржаўнай узнагародай РБ хутчэй за ўсё будзе ордэн Рэспублікі. Другім па значнасці прапануецца зрабіць ордэн „За мужнасць і адвагу". Таксама будуць, відаць, заснаваны і ўзнагароды для мнагадзетных маці і медалі за працоўныя заслугі.

А вось ганаровыя граматы і Грамата Вярхоўнага Савета рэспублікі, пэўна, зусім скасуюцца, бо за 54 гады з моманту заснавання гэтыя ўзнагароды зусім абясцэніліся. Імі былі адзначаны больш 100 тысяч беларусаў, прычым, каля 8 тысяч кампартыйных функцыянераў маюць па дзве граматы, а 1,5 тысячы чалавек увогуле — ад 3 да 5.

**СЯБРЫ ПАЗНАЮЦЦА Ў БЯДЗЕ**

Першай з краін Садружнасці прыйшла на дапамогу Беларусі ў барацьбе з чарнобыльскай навалай Малдова. Гэта рэспубліка пералічыла нам на чарнобыльскія патрэбы 25 мільёнаў рублёў. Астатнія дзяржавы СНД, у тым ліку і Расея, якая абяцала выдаць доўгатэрміновы крэдыт у 10 мільярдаў рублёў, пакуль што маўчаць.

**ДЗЕЦІ ЗЯМЛІ-МАТКІ МАЁЙ БЕЛАРУСКАЙ**

55 беларусаў з літоўскага горада Друскенікі некалькі месяцаў таму звярнуліся ў Вярхоўны Савет Беларусі з просьбай аб прадастаўленні ім беларускага грамадзянства. І вось нядаўна гэтыя людзі сталі паўнапраўнымі грамадзянамі суверэннай Беларусі.

**РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ НА РАНДЭВУ**

Папулярны французскі часопіс „Гран рэпартаж" сумесна з беларускай асацыяцыяй „Белфранс" збіраецца наладзіць рандэву французскіх чытачоў з Беларуссю. Як паведаміў прэзідэнт асацыяцыі, народны дэпутат рэспублікі Уладзімір Новік, у хуткім часе выйдзе нумар „Гран рэпартажа" цалкам прысвечаны Беларусі, яе гісторыі, культуры і эканоміцы.

**ПОЛЬШЧА — КРАІНА ЖАДАНАЯ**

Як высветлілася нядаўна, самай папулярнай замежнай краінай сярод беларускіх парламентарыяў з'яўляецца Польшча. За апошні час Рэспубліку Польшча наведалі 35 народных дэпутатаў Беларусі. Аднак, трэба быць шчырымі, не ўсе паездкі ў суседнюю краіну былі абумоўлены дзяржаўнымі інтарэсамі.

**АЎТАМАБІЛЬ — РАСКОША, А НЕ СРОДАК ПЕРАМЯШЧЭННЯ**

З пачатку лета ў Гродзенскай вобласці ўведзены лімітныя карткі на бензін для ўладальнікаў асабістых легкавых аўтамабіляў. Цяпер гродзенскі аўтааматар мае права заліць у бакі свайго чатырохкалёснага „каня" не больш 80 літраў бензіна ў месяц. За парушэнне ўстаноўленага парадку і падробку картак прадугледжаны штраф ад 200 да 10 тысяч рублёў.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* Аб чым гаварылася ў белавежскім скансэне.
* „Аграбанк" у Беластоку.
* Беларускія чытанні ва універсітэце.
* Праваслаўнае брацтва ў Менску.
* Аб „белавежцах" у польскім друку.

**РОВАРАМ НА ЛЭМКАЎШЧЫНУ**

Брацтва праваслаўнай моладзі ў Бельску арганізуе паломніцтва на **Св. Гару Явар** у днях 4 — 12 ліпеня 1992 г.

Пачынаем у Бельску і едзем праз:

**Мельнік — Яблочын (манастыр) – Холм — Тамашоў Люблінскі — Пярэмышль — Санок — Горліцы — Бортнэ.**

На Святую Гару Явар прыбываем у дзень свята Апосталаў **Пятра і Паўла**.

Бліжэйшыя інфармацыі:
Doroteusz Fionik
ul. Wiejska 48
17-100 Bielsk Podlaski

Памалу мы прызвычайваемся яшчэ да аднаго Марцінкевіча ў беларускай літаратуры - Гераніма /1816 - пасля 1864/. У нядаўнім часе быў адшуканы яго беларускамоўны драматургічны абразок у вершах «Адвячорак». Пастаўлены на віцебскай сцэне у 1861 годзе, твор гэты нарэшчэ адноўлены ў нашай гісторыі і вернуты сённяшнім прыхільнікам беларушчыны. Астатняя ж спадчына Гераніма Марцінкевіча /дзве паэтычныя кнігі і «Творы, напісаныя між іншым», выдадзеныя ў Вільні ў 1845, 1848 і 1857 гадах, а таксама захаваная ў рукапісе драма «Падарожны»/ чакае свайго часу. Каб, застаючыся ў гісторыі, наблізіцца да сучаснага беларускага чытача, творы Марцінкевіча павінны будуць прайсці праз беларускі пераклад з польскай мовы. Частка з іх ужо залучана ў анталагічны зборнік беларускай польскамоўнай паэзіі мінулага стагоддзя, які маецца выйсці ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пад назваю «Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай».

Чытачам «Нівы» прапаную з таго зборніка два вершы Гераніма Марцінкевіча ў маім перакладзе.

**УЛАДЗІМІР МАРХЕЛЬ**

*ГЕРАНІМ МАРЦІНКЕВІЧ*

**ГОЛАС ЖЫЦЦЯ**

*Гэй, брацці, збіраймася*
*ў хор мы, у кола!*
*Жыццярь кліча голас:*
*У хоры, у коле*
*Мы знішчым бяздолле,*
*Зліем свае песні,*
*Надзея ўваскрэсне.*
*Хто ж роспачну, енкам*
*у нашай юдолі*
*Суняў свае болі?*
*О, голасным плачам*
*Свет вуха аблашчыў.*

# ПРАЙСЦІ ПРАЗ ПЕРАКЛАД

*Што з енку? - жыць трэба,*
*Бо жыццё - дар неба.*
*Ці мала сяброў нашых*
*смерць падкасіла*
*У росквіце сілы?*
*- Каб жыцце не траціць,*
*Мы жыйма за браццяў,*
*Сяброў - іх укрыла*
*Дачасна магіла!*
*Здзяйсняйма іх светлыя*
*ў дзеях памкненні,*
*Што ў мгле шлюць праменні;*
*І наша з іх жыццём*
*Хай будзе адбіццем*
*Дзівоснага раю*
*Між цемры у краі.*
*Гэй, брацці, збіраймася ў хор мы,*
*у кола!*
*Жыцця кліча голас:*
*У хоры, у коле*
*Мы знішчым бяздолле,*
*Зліем свае песні,*
*Надзея ўваскрэсне.*

**ДА ЭДВАРДА ЖАЛ.......ГА*)**

*Каб мне крылы мець!*
*Часта лётаць там,*
*Дзе ты ў думках сам*
*Сееш праўды квець.*
*Каб адкрыць сакрэт -*
*Дум сваіх сувой -*
*І пачуццяў рой;*
*Не пускае свет...*
*Доўга ў пасме лет*
*Праўдаю не жыў,*
*Ёй праслед чыніў*
*Самалюбны свет.*
*Праўда - рэдкі госць...*
*Дружа, дай далонь*
*І да скроні скронь!*
*Можа, згіне злосць...*
*Бо з'яднаным Бог*
*Дасць моц для крыла!..*
*Вось ноч і ўцякла .................*

**(З польскай пераклаў Уладзімір Мархель)**

---

Эдвард Жалігоўскі /1816-1864/ - паэт, родам з Віленшчыны, знаходзіўся пад наглядам паліцыі, быў двойчы /у 1839 і 1851 г.г./ тэрарызаваны царызмам.




**КАСТУСЬ ЕЛІСЕЕЎ**

***

Зямлю падзялілі на крэсы,
Зямлю падзялілі межы.
І вось замест бульбы і хлеба
Пустазеллем засеяна глеба.

У Бялыстаку, у Смаленску,
У Бярэсці, Менску, Гародні —
Паўсюдна правіць жадае
Круль заходні або цар усходні.

Іх сцягі пакрываны багата
У крыві побач жыўшых народаў.
Сіла іх — у мячах чорных катаў,
Што чакаюць нас кожнай дарогай.

Вецер разносіць попел,
Ліхія стрэхі ў хатах.
Толькі сякуць галовы
На новых законаў плахах.

Як быццам рака вяліка
Збірае з рачулкаў памяць,
Стагоддзі зноў усплываюць,
Бялізну калысак баюць.

Старыя млыны зелянеюць,
Плыні віры праносяць.
Шчырэц нібыта дрыгвою
На дне след стары заносіць.

**КОЙКА ЯРАСЛАЎ**

*Койка Паўлу Сцяпанавічу*

***

Вушы не пачуюць. Вочы не ўбачаць.
Рукі ўжо ніколі так не забаляць;
Сена не накосяць, грады не ўправяць.
А нагам не тупаць і не пастаяць.

Долу клоняць ніжэй ветрыкі алешша,
Хмызнякі павольна шэпчуць пра вясну.
А табе ніколі ўжо не крочыць пешшу
Па траве і жвіры, па жоўтым пяску.

Кожны год вясновым квеценем скіпае,
Кожны год чаромха ап'яняе свет.
Ты ўжо не нап'ешся, як калісьці ў маі,
Калі твой Алёша прывітаў Сусвет.

Ты чакаў палёгкі, валкаваўшы сена,
Ты чакаў світанку, бульбу садзячы.
Ты такім застаўся, жорсткім і змарнелым.
З невымерным болем у глыбіні душы.

**ПЯТРО ЛАМАН**

**КАЛІДОР**

Калідор у прасторы.
Сцены дзверы,
Сцены правалы,
Замест сіняга неба
Каравая белая столь.

Узыйшла зорка гора.
Цені Веры
Целы ірвалі.
Замес жэрлі ганебны.
Камянела крывавая соль.

Па асклізлай падлозе,
Па трупах да сонечнай мэты.
Мэтай стала сцяна
Пабітая воспаю куль.

На падлізах падлюгі,
Замест сёдлаў трыбуны-паэты,
Толькі сала цана
Іхняй трубнасці вышай пакуль.

Быццам новая зорка,
Нібы шаравая маланка,
Пры канцы калідора
Пульсуе пылінка святла.

Б'ецца горкая думка,
Дыміць як ліхая палонка...
Можа гэта і добра,
Што доля сюды прывяла.

## У суседзяў

### УКРАІНСКІ ЦЭНТР НАВУКІ І КУЛЬТУРЫ

З выстаўкі царкоўнага мастацтва ў новай Галерэі ўкраінскага мастацтва /адкрытай 5 чэрвеня г.г. на вул. Канонічай/ пачаў сваю дзейнасць Украінскі цэнтр навукі і культуры пры Фондзе св. Уладзіміра Хрысціцеля Кіеўскай Русі ў Кракаве. Выстаўка з'яўляецца часткай багатай праграмы Цэнтра, яго намераў пачаць працэс адраджэння хрысціянскай плыні, «якая з'яўляецца сутнасцю тоеснасці і духоўнасці ўкраінцаў, свядома нішчанай сваімі і чужымі матэрыялістамі», як сфармулявалі сваё крэда арганізатары. Людзі культуры і навукі - прадстаўнікі павязанай з Кракавам інтэлігенцыі, якім прыйшлося перажыць «боль высяленняў, страту ўласнага дому, адсутнасць духоўнага агню, які цэлымі стагоддзямі гарэў перад іконамі». Невыпадкова Цэнтр паўстаў у Кракаве - сцвярджаюць ініцыятары аднаўлення ўкраінскай культуры. - У гэтым горадзе на Вавельскім замку жылі і маліліся ў сваім абрадзе рускія княгіні - жонкі польскіх каралёў, тут Фіёль, першы ў свеце, друкаваў кірыліцай царкоўныя кнігі. З Кракавам звязалі свой лёс многія выдатныя творцы ўкраінскага паходжання.

На выстаўцы даўняга мастацтва арганізатары паказалі падборку ікон /XVII - XIX ст./ з разбуранай царквы ў Цэўкаве каля Любачова, ікону Пакровы Божай Маці з Гарайца і Маці Божай з Дзіцём з Корчміна. У сучаснай частцы выстаўкі прадстаўлена вядомае іконапісанне Ежы Навасельскага і малюнкі Тырсуса Венгрыновіча, які па-мастацку дакументуюць неіснуючыя ўжо цэрквы і царкоўкі.

- Высяленне пакінула помнікі нашай архітэктуры без аніякай апекі і нагляду. Цэрквы з году ў год пападалі ў руіну. Ведаючы гістарычную каштоўнасць, я, як артыст, хацеў хаця ў малюнках захаваць тое, што асталося, - матывуе свае зацікаўленні мастак.

Выстаўка будзе адкрыта да кастрычніка.

### III ФЕСТЫВАЛЬ ЯЎРЭЙСКАЙ КУЛЬТУРЫ

«Выбраны народ» - агляд кінафільмаў аб яўрэйскай тэматыцы - адбыўся ў кракаўскім кінатэатры «Мікра» ў 1987 годзе. Мерапрыемства было настолькі цікавае, што яго арганізатары на другі год наладзілі ўжо Фестываль яўрэйскай культуры. Праекцыі кінакарцін былі папоўнены дакладамі, выстаўкамі, канцэртамі і сустрэчамі з творцамі. Фестывалю спадарожнічалі «Дні Кракаўскага Казімежа» - гістарычныя вандраванні па слядах культуры польскіх яўрэяў. З увагі на тагачасную палітычную рэчаіснасць фестываль быў адрасаваны толькі да зацікаўленых з Польшчы. II Фестываль у 1990 годзе быў ужо міжнародным.

У гэтым годзе падобна. Мерапрыемствы III Фестывалю ўключаны ў праграму Еўрапейскага месяца культуры ў Кракаве. Фестываль пачаўся 6 чэрвеня ў кінатэатры «Кіеў» паказам кінафільма Паўла Лазінскага «Месца нараджэння». Гэта патрасаючы дакумент аб вяртанні Генрыка Грынберга ў родны горад, дзе ён прабуе высветліць загадку смерці сваіх бацькоў. Наступным кінафільмам быў «Адзін з нас» Уры Барбаша - правакацыйная карціна аб справядлівасці і маральнасці ў ізраільскай арміі. Фільм Поля Мазурскага з ЗША «Ворагі, аповесць аб любві» - гэта драма маральных паставаў, заінспіраваная прозай Сінгера.

Самай новай прапановай Януша Кіеўскага быў польска-нямецка-французкі фільм «Варшава, год 5703", аб жанчыне, якая ў сваёй кватэры хавала ў час вайны двое маладых яўрэяў. Прадстаўляе ён субтыльны аналіз адносін паміж трыма людзьмі, заблытанымі ў складаную ігру. У фільме выступаюць Ганна Шыгуля, Ламберг Вільсон і Джулі Дэльфі.

Апрача прэзентацыі кінакарцін адбылося некалькі вернісажаў і спектакляў. Цікавымі былі пастаноўкі «Рудымент» кракаўскага Тэатра Мандаля і «Мёртвы сезон у Драгабычы» Тэатра Інсамні АСБЛ з Брусэля.

Родны Кракаў ізноў наведае пісьменніца Мірыям Акавія, а ўпершыню прыедзе сюды яўрэйскі літаратар з Літвы Грыгорый Кановіч. Брунану Шульцу - у 100 гадавіну нараджэння і 50 смерці - будуць прысвечаны: навуковая сесія, тэатральная частка і фрагмент фільмовай часткі. Будзе ўшанавана памяць Мардэхая Гэбіртыга, барда кракаўскага квартала Казімеж, які быў застрэлены 50 гадоў таму назад у кракаўскім гета. На доме, у якім жыў спявак, будзе адкрыта мемарыяльная дошка. Дзякуючы немцу Манфрэду Леману, які ўжо шмат гадоў распаўсюджвае песні Гебіртыга па ўсім свеце, і кларнетысту Джаэлю Рубіну з Берліна, у Кракаў прыедуць вядомыя музыканты: Шура Ліпоўскі, Джэф Варшаўэр з калектывам, Шлёма Карлебах, група Габрэра Гатывіт з Ізраіля, калектывы Піямента, Клематыкс, Дрэйф Олд Уорлд.

Дзякуючы такім як кракаўскі фестывалям і ў нас аб яўрэйскай культуры можна гаварыць не толькі ў мінулым часе.

### КУРБАН-БАЙРАМ

Курбан-байрам - самае важнае рэлігійнае свята ў мусульман. Святкаванні праводзяцца цэлыя чатыры дні і выпадаюць яны на дзесяты дзень месяца «дгуль-гіджжа» /чэрвень-ліпень паводле грыгарыянскага календара/. У першы дзень свята, пасля набажэнства вернікі складаюць ахвяру з вала або барана за душы памёрлых.

На гэтае свята мусульмане з'язджаюцца ў свае родныя мясціны. На Беласточчыне мячэці і могільнікі знаходзяцца ў вёсках Крушыняны і Багонікі. **(л)**

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### НАСТАЛЬГІЯ - ХВАРОБА НЕБЯСПЕЧНАЯ

«Народная газета» паведаміла 2 чэрвеня г.г., што аддзел адукацыі Кобрынскага гарсавета дапамог Таварыству ўкраінскай мовы імя Т. Шаўчэнкі арганізаваць у школах групы для вывучэння ўкраінскай мовы. З новага навучальнага года замест груп плануецца стварыць цэлыя класы.

Таварыства ўкраінскай мовы найбольш набліжана да Руху. «ЛіМ» ужо не раз пісаў пра дзейнасць рухаўцаў у Беларусі, пра іх жаданне бачыць Берасцейшчыну і Піншчыну ў складзе ўкраінскае дзяржавы. Нават брашуру выдалі - пра тысячагадовае імкненне Берасцейшчыны да Украіны.

1000 гадоў таму назад Украіны не было. Украіна ўзнікла тады, калі вялікія князі Гедымін і Альгерд ўзялі пад сваю ўладу Валынь, Чарнігаўшчыну, Кіеўшчыну ды Падолію. Гэтыя землі сталі называць украіннымі - адсюль і Украіна. У 60-х г.г. XVI ст. шляхце ўкраінных земляў вельмі захацелася пад польскую апеку. У 1569 годзе Ратненскі павет перайшоў у склад Польшчы, а шляхта Берасцейскага і Пінскага паветаў пажадала застацца ў складзе Вялікага княства Літоўскага. Сучасная граніца Беларусі з Украінай амаль дакладна паўтарае мяжу 1569 года.

Паўднёвыя беларускія землі належалі Украіне двойчы: пры кайзеры Вільгельме II ды пры Гітлеры. Мусіць, валынскія рухаўцы ды актывісты Таварыства ўкраінскай мовы з настальгіяй успамінаюць тыя часы. Што і казаць, хвароба небяспечная.

Самае незразумелае тут - пазіцыя мясцовых уладаў. Якая настальгія апанавала іх? Маўчаць КДБ і Пракуратура Беларусі. Маўчыць Міністэрства замежных спраў.

...Ведаць мову суседзяў добра і карысна. Але трэба адрозніваць культурную місію ад палітычнай. Тое, што ўкраінскае міністэрства адукацыі пакідае абітурыентам з Берасцейшчыны месцы ў сваіх ВНУ, недвухсэнсоўна сведчыць аб пэўных тэндэнцыях. Ураду Беларусі трэба было б высветліць, што гэта за тэндэнцыі.

/"Літаратура і мастацтва" ад 5 чэрвеня 1992 г./

### ЗАБЯСПЕЧЫЛАСЯ

На хутары за вёскай Л. жыла адзінокая пенсіянерка. Сваю гаспадарку аддала дзяржаве. Дзеці хацелі, каб ішла жыць да іх у горад, але яна цвердзіла:

— Найляпей жыць у сваім доме. Свая хатка — як родная матка.

Вясной прадала сялянам сваё дабро — тры каровы, каня, воз, пару авечак і яшчэ трохі рэчаў, якія былі ўжо ёй непатрэбныя. Грошай дзецям не дала.

— Дай ім як найбольш — то развядуць!

А трэба мне зрабіць так, як людзі робяць: заказаць сабе надмагільны помнік і купіць гарэлкі на трызну. Тады дзецям будзе лепш, — думала Ліда.

Заказала помнік, накупіла гарэлкі — аж дваццаць скрынак. Паставіла гарэлку ў склеп пад падлогай дома, зверху палажыла дыван.

Людзі шмат разважалі над Лідзінымі пакупкамі.

Хлопцы з вёскі рашылі напіцца ўдосталь чужой гарэлкі. Ноччу пайшлі на хутар. Загрукалі ў дзверы.

Старая Ліда маўчала. Ціха адчыніла вакно і выскачыла ў бульбу, якая расла за хатай.

Хлопцы выбілі дзверы і пачалі шукаць гарэлку. Знайшлі ўсяго два паўлітры, якія стаялі ў шкапчыку.

— А бадай яе ліха! — злаваліся. — Чаго гэта людзі не выдумаюць! Купіла старая сабе два паўлітры, а кажуць — дваццаць скрынак!

— Мае шчасце, што няма яе дома, а то далі б пад дых!

Узялі яшчэ каўбасу і хлеба на закусь ды пайшлі.

Старая праляжала ў разоры да раніцы.

— Зладзеі больш не прыдуць, бо няма чаго браць! — рашыла Ліда.

І далей жыве адзінока ў сваёй хатцы на хутары.

АЎРОРА



## Фота-вітрына

*Лясное зззянне. Фота Уладзіслава Завадскага.*




Ciechanowiec, 8 czerwca 1992

Szanowny Pan Witalis Łuba
Naczelny Redaktor «Niwy»

**Szanowny Panie!**

«Niwa» z dnia 31 maja br. opublikowała fragment wywiadu, jakiego udzielił P. Andrzej Gawryluk «Gazecie Olsztyńskiej». Mówiąc o «odzyskaniu eksponatów wywiezionych do Ciechanowca» stwierdził: «Wśród nich znajduje się mój zbiór etnograficzny ofiarowany muzeum przed pięciu laty».

Nie wiem co i komu «przed pięciu laty» przekazał P. Gawryluk. Oświadczam, iż Muzeum Rolnictwa w Ciechanowcu na pewno nie ma żadnych jego zbiorów. Nigdy mi ich nie przekazywał. Zatem jego informacja, powtórzona przez «Niwę», jest nieprawdziwa.

Łączę wyrazy szacunku

DYREKTOR
mgr Kazimierz Uszyński

## З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**16 жніўня 1988 г.**

Сёлета канікулы не падобныя на канікулы, адну падзею даганяе другая. Ужо трэці тыдзень не магу пабыць у Крынках /праўда, не надта цяпер цягне мяне туды, пакуль Таня не закончыць задуманы ёю глянцпарадак там, перш за ўсё татальнае маляванне яшчэ раз дома ды ўсяго у доме, а нават платоў, і іншыя дробкі недаробленага ў мінулыя гады. Усякія перабудовы маюць тую асаблівасць, што пасля іх можна праз столькі сама гадоў усё нешта даканчваць, паляпшаць/. Шмат тапталіны з выездам у Канаду і ЗША; аналагічна, як з тою перабудоваю, усё робіш этапамі, па меры таго як з'яўляюцца грошы або магчымасці пазычыць іх. Каб не жахлівая інфляцыя або іншыя пагрозы, не быў бы патрэбны спех - мітусня, лоўля аказіяў. /.../

Ваўранюк і Ляшчынскі ў Рыме, Лёнік у Парыжы; Сельвясюк збіраецца ў ЗША, Вапа ў Канаду; Базылючка і яшчэ нехта - у Грэцыі... А нядаўна - у Мінску, у Вільні...

Рух у маладабеларусаў!

**18-08-1988 г.**

Азвалася - урэшце! - «Мастацкая літаратура»; напісаў Рубанаў /некалі я з ім трохі перапісваўся, даўнымдаўно/. У адказ яму прапаную ... настойваю, каб выдалі мне не аднаго «Самасея», але двухтомнік! /такую думку паддаў Сачанка, калі быў на юбілеі «Белавежы»/.

Учора - у Крынках; якісьці ксёндз з Познані прывалок цэлую экскурсію /начавалі, паставіўшы палаткі ў садзе/. Трэба было з'ездзіць мне да гэтых энтузіястаў «Białorusi, Białorusi», якім і не падумаецца, што мы ненармальная нацыя /падарожнічаюць уздоўж «усходняй сцяны»/.

Агледзеўшы пры нагодзе, як працуюць рамеснікі пры «выхарошванні» нашага там дома, перажыў шок! Больш не буду ўжо анічога рабіць ні заказваць.

Адшукаў апошнія пяць экз. «Archiunaha ssytka» /усяго зрабіў яго Мікола 80-т, і па 120-ць «Pismo da siabry» і Геніюш «Dzieviać viersau»/.

J. Dzięgielewski, O tolerancji dla zdominowanych, PWN 1986. Яраслаў купіў.

**23-08-1988 г.**

Два дні пабыла ў нас Ларыса Курыла, маладая беларуская амерыканка з Нью-Джэрзі. Няблага гаворыць пабеларуску /бацькі так настаялі/.

Павадзіў я яе па Беластоку; завёў у «Ніву»; у цэркві /цікавілася беларускасцю святароў, менш самім беларускім рухам/. Прыехала ў Польшчу з нейкай палячкай, пазнанскай... Была ў Ваўкавыцкіх; ад іх сазванілася са мною./.../

Ад учора ў Польшчы ізноў подых ваеннага становішча: заядлыя забастоўкі ў капальнях і ў шчэцінскім порце, камендантскі час у Катавіцкім, Шчэцінскім і ў Гданьскім ваяводствах. Каму гэта патрэбна? Прыхільнікам лібералізацыі, каб хутчэй адбывалася? Альтэрнатывай для «перастройкі» можа быць дыктатура вайскоўцаў, якая закончыцца эканамічным крахам ды сусветнай кампраметацыяй камунізму.

Не хочацца мне паспець на Кангрэс Беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Таронта. Нават толькі прысутнасць на ім магла б паслужыць добрай прычынаю ворагам маім у Беластоку ды і ў Мінску, каб зноў капаць ямы пада мною.

Выдавецтва «Беларуса» выпусціла Зьніча «Рэха малітвы. Вершы зь Беларусі». Смаршчок: гэта... Алега Бэмбэля. Мастацка добрыя. І гожа афармленыя.

Ларыса нешта згадвала пра нядобрую падатлівасць часткі эміграцыі супроць Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Амерыцы. І што непатрэбна ўмешваюцца ў гэта беларускія каталікі, незнарокам даючы аргументы русафілам, якія «абараняюць» т.зв. чысціню праваслаўя.

«Nasz step mieni się pszenicznym łanem», «Kurier Podlaski - Reporter», 19-20-21.VIII.: гутарка з нашым Мацеем Канапацкім. Зусім іншы клас чалавека! Гэта не хамула Рыбінскі, ці буфон Амільяновіч, якія ўсяляк адхрышчваліся ад беларускіх эпізодаў у сваім жыцці /рабілі ж у рэд. «Нівы»/.

У тым жа нумары - Славінская «Leki wędrują za mury». Амільяновічаўскае плявузганне на беларусаў, на матывах нямецкае акупацыі /несарыентаваны чытач зразумее, што калабарантамі былі адны беларусы/.

**/Працяг будзе/**

*Тлумачэнні:*

- Кангрэс Беларусаў... - памылковая назва Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амерыкі;
- Мацеем Канапацкім - адзін з журналістаў «Нівы», які потым стаў першым рэдактарам беларускай праграмы «Польскага радыё» ў Беластоку; даследнік гісторыі беларускай літаратуры.

# ДАПАМАГАЮЧЫ - НЕ РАЗДРАЖНЯЦЬ

*працяг са стар. 1*

ла, тэлефона і таму падобных аплатаў.

*- Пасля развязкі гэтага таварыства ваша становішча не змянілася?*

- Не, тым больш, што на яго месца ўтварылася новая арганізацыя. Называецца яна «Польшча - Усход».

*- Як вы арганізавалі прыём дзяцей?*

- Мы пасяляем дзяцей у сем'ях. Даем аб'явы па радыё, у тэлебачанні і людзі нам тэлефануюць, дэкларуюць ахвоту і магчымасць дапамогі. Гэта адбываецца на працягу цэлага года. Прыязджаюць аўтобусы з дзецьмі, шафёры адпачнуць, прададуць, што ў іх ёсць - такое жыццё - і вязуць тых, якія ўжо ў нас адпачылі - пустыя аўтобусы не ходзяць. Да гэтай пары прынялі мы ўжо каля дзвюх тысяч дзяцей.

*- Ці неяк правяраеце сем'і, у якіх прабываюць дзеці Чарнобыля?*

- Правяраем, але не ўсіх, ды стараемся рабіць гэта далікатна, каб нікога не абразіць. Зрэшты, ужо на самым пачатку ставім мы некалькі абумоўленняў, напрыклад: выбіраем у першую чаргу сем'і з дзецьмі. Дарэчы, нават калі б мы хацелі дакладна ўсіх праверыць, дык не змаглі б такую колькасць людзей. Тым больш, што сваёю дзейнасцю ахопліваем усю Польшчу, а не толькі Варшаву. Магу сказаць, што такое маленькае мястэчка Астравіцы ў Кашалінскім ваяводстве прыняло ўжо звыш 300 дзяцей. Вельмі актыўныя людзі ў Слубіцах, Быдгашчы.

*- З якімі арганізацыямі на Беларусі супрацоўнічаеце?*

- З гомельскім фондам «Защита от атома». Апрача таго, ёсць у нас сувязі з Масквой і Санкт-Пецярбургам, з Усерасійскім дзіцячым фондам і з арганізацыяй «Tcharnobyl Help». Апошнім часам намецілі мы арганізацыю «Чарнобыль» у Омску. У гэтым сібірскім горадзе жывуць ліквідатары на Чарнобыльскай АЭС, разам з цэлымі сем'ямі. Маем таксама кантакт з Кіевам.

*- А ў Польшчы? Ці супрацоўнічаеце з падобнымі на вашу арганізацыямі? Можа з царкоўнымі ўстановамі?*

- У Польшчы з падобнымі ініцыятывамі кантактаў не маем. Працуе нас тут усяго 4 чалавекі, так што няма проста фізічнай магчымасці займацца наладжваннем такога тыпу супрацоўніцтва. Іншыя людзі дапамагаюць нам аказіянальна. У Макове-Падгалянскім ксёндз прыняў групу нашых дзяцей на зімовыя канікулы і хоча надалей з намі супрацоўнічаць. Стараемся таксама завязаць лучнасць з Праваслаўнаю царквою, дзеля гэтага я ўжо ездзіла ў Беласток, гаварыла з айцом Аляксандрам Хіліманюком, які таксама апякуецца дзецьмі Чарнобыля.

*- Ці спаткаліся Вы з такім падыходам людзей, што хочуць яны дапамагаць у першую чаргу польскім дзецям з «крэсаў»?*

- Раз ці два хтосьці мяне спытаў, ці ў групе ёсць польскія дзеці. Я адказвала, што могуць быць, паколькі гэта колішняе Вялікае княства Літоўскае, але, ці ёсць, мяне гэта сапраўды не цікавіць. Мы дапамагаем дзецям без агляду на нацыянальнасць.

*- Былі ў вас выхаванцы дзіцячых дамоў?*

- Так, былі. Я тут хацела б аднесціся да тых «душещипательных» - як гавораць рускія - момантаў, экспанаваных у польскім тэлебачанні. Між Польшчаю і былым Савецкім Саюзам няма дамоўленасці наконт усынаўлення. Таму, як ні цяжка, але дзеці павінны вярнуцца - затрыманне з'яўляецца незаконным. І не памогуць тут эмоцыі, нічога не паможа. Да таго яшчэ трэба ўлічыць гісторыю Беларусі, мартыралогію гэтага народа. Не здзіўляе мяне сёння звышчуллівасць беларусаў на захаванне сваёй тоеснасці. У прэсе на Беларусі паявіліся абвінавачанні палякаў у тым, што хочуць паланізаваць запрошаных дзяцей. Такіх непаразуменняў трэба пазбягаць. Нам, пакуль што, гэта ўдаецца. Хацелася б, каб так было і ў будучыні.

*- Жадаю вам гэтага. Дзякую за размову.*

**Гутарыў МІКОЛА ВАЎРАНЮК**



*Кіраўнік фонду „Нашым дзецям" Галіна Кацярына Бялінская.*

---

**ПА БЕЛАРУСКІХ СЛЯДАХ**

Нядаўна давялося мне пабываць на адпачынку ў курорце Полчын-Здруй і я, як заўсёды, пачаў шукаць беларускія сляды. За парадай Галіны Тафель з турыстычнага бюро (яна родам з-пад Вільні) трапіў я да Казіміра Казакевіча.

У сваёй кватэры прывітаў мяне пажылы мужчына і, даведаўшыся хто я такі, стаў прыгожа размаўляць пабеларуску. Мой субяседнік нарадзіўся ў 1928 годзе ў вёсцы Заброддзе (у Стаўбцоўскім павеце), дзе ўсе паслугоўваліся беларускай мовай. Там да вайны закончыў ён чатыры класы пачатковай школы. У 1940 годзе, за тое, што яго бацька працаваў леснікам, функцыянеры НКУС вывезлі сям'ю ў Сібір, недзе ў Мурошынскі раён Кіраўскай вобласці. Пасялілі іх у бараках, а бацькоў прымусілі рубаць лес. Потым была спроба бацькі трапіць у польскую армію і пераезд у Ташкент, дзе лютавала страшэнная эпідэмія, затым апынуліся ў калгасе Северны Полюс у Архангельскай вобласці. У 1946 годзе скарысталі яны з магчымасці пераехаць у Польшчу і аселі ў Полчыне-Здроі. Тут Казімір Казакевіч ажаніўся з дзяўчынай з суседняй вёскі (пазнаёміліся ўжо ў Польшчы) і тут правёў сваё мірнае жыццё. Цяпер знаходзіцца ён на пенсіі, пасля сарака гадоў прафесійнай працы.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# ЗАХОПЛЕНЫЯ ПАГРАНІЧЧАМ

4 і 5 чэрвеня г.г. у Філіі Варшаўскага універсітэта ў Беластоку праводзілася навуковая канферэнцыя «Польска-беларускія літаратурныя і моўныя сувязі». Арганізатарамі гэтай сустрэчы былі Інстытут польскай і Інстытут славянскай філалогій.

Лекцыі і дыскусіі праводзіліся ў дзвюх секцыях - літаратуразнаўчай і мовазнаўчай, кожны дзень былі таксама і пленарныя сустрэчы. Дыскусіі вялі прафесар Галена Карвацкая і прафесар Ян Насовіч. Тэмы лекцый і рэфератаў маглі зацікавіць не толькі навукоўцаў і студэнтаў гуманітарных навук (вось студэнтаў зашмат не было, але, як сказаў Я. Насовіч, нішто так не адштурхоўвае ад зацікаўлення тэмай, як «згоны» публікі на такія сустрэчы).

На жаль, не даехалі на канферэнцыю з вельмі цікавымі рэфератамі: Яўген Чапляевіч ("Крэсы" і Сібір"), Станіслаў Буркот ("Беларусь Юзафа Ігнацы Крашэўскага"), Аляксандр Баршчэўскі ("Беларуская літаратура ў «Пшэглёндзе віленьскім»), Юры Трачук ("Язэп Рушчанец - святар і пісьменнік польска-беларускага сумежжа"), Альберт Барташэвіч ("Польскія і беларускія словаўтваральныя адносіны"), Чэслаў Сэнюх ("Заўвагі на тэму перакладаў беларускай літаратуры на польскую мову").

Вацлаў Шаршуновіч прадставіў творчасць двухмоўных пісьменнікаў. Рэферат Мар'і Чурак датычыў польскіх даследчыкаў беларускага фальклору. Галена Карвацкая прадставіла свой артыкул «Маладая Беларусь» ва ўспрыманні „Маладой Польшчай". Анна Кежунь займалася ідылічнымі вобразамі «крэсаў» у раманах Юзафа Вэйсэнгофа, Барбара Олех выказвала свае заўвагі да «Беларусі» Леанарда Падгорскага-Аколава. Рэферат Рышарда Ходзькі «Голас Іева і Арфея - пісьменнік на цывілізацыйным сумежжы культур» датычыў Бучкоўскага і Вітліна. Надзея Панасюк пазнаёміла слухачоў з сувязямі Янкі Брыля з польскай літаратурай. З цікавейшых рэфератаў з секцыі мовазнаўцаў былі: Ліліі Цітка - «Гіпакрыстычныя імёны ў крыніцах XVI стагоддзя з польска-беларускага пагранічча», Зоф'і Абрамовіч - «Трансфармацыя беларускіх імён на польскую мову», Барбары Фалінскай - «Беларуска-польскае пагранічча ў святле слоўніка з круга матэрыяльнай культуры», Леанарды Дацэвіч - «Антрапанімія ў творах Эдварда Радлінскага», Яна Насовіча - «Некалькі заўваг аб моўных польска-беларускіх кантактах у сучаснасці».

Вельмі цікавай была тэма рэлігіі на сумежжы культур. Заняліся гэтай тэмай - Зянона Рытэр у рэфераце «Рэлігія на беларуска-польскім пагранічы» і Дарота Келяк (наймалодшая ўдзельніца канферэнцыі) у артыкуле «Вуніят - герой пагранічча. Яшчэ адно гераічнае аблічча пераломy стагоддзяў», які прадставіла на заканчэнне канферэнцыі (даўёў ён да вельмі цікавай, гарачай дыскусіі).

Такія сустрэчы павінны праводзіцца часцей - сцвердзіла прафесар Г. Карвацкая. Напэўна, у Беластоку. Арганізатары падышлі да справы вельмі сур'ёзна, падобна як і ўдзельнікі. Універсітэт пастараецца выдаць кніжку рэфератаў і галасоў дыскусіі з гэтай канферэнцыі. Сустрэча была вельмі таннай - калі хто можа сказаць, што грошай не хапае ў сённяшні час на культуру і навуку. Беласточчына і духоўныя «крэсы» - рай для мовазнаўцаў і людзей, захопленых разнастайнасцю і радых багаццю культур.

/лук/

# РЭПЕТЫЦЫЯ З „УЛІСА”

Музыка ў краіне саветаў экзістуе на асаблівых прынцыпах. Прабываючы ў сувязі з «Басовішчам» у Менску, стварыў я сабе сякі-такі вобраз маладой беларускай музыкі. Дзякуючы таму, што маім гідам у Менску была Святлана Пузіноўская - настаўніца ў музычнай пачатковай школе і выкладчыца дырыжыравання ў музычным каледжы - прыглядзеўся я таксама музычнаму жыццю, якое збоч рок-н-рола. Ніжэй зьмяшчаю некалькі рэфлексій са свайго «падарожжа» па музычных асяроддзях Менска.



*Алег Тумашоў: новы вакал „Уліса”.*

Пачну з таго, што бацькі, якія хочуць, каб іхнія дзеці атрымалі салідную асвету, намагаюцца паслаць іх у пачатковую школу з мастацкім ухілам. У агульных жа школах, як я даведаўся, узровень навучання далёка не такі. І так, дзякуючы Святлане, пашанцавала мне трапіць на ўступны экзамен у Музычную пачатковую школу н-р 8 у Менску. Паступіць туды - не такая ўжо простая справа. Перш-наперш трэба мець неблагія знаёмствы. Не таму, што набор у школу кантралюе мафія, але таму, што вучня трэба падрыхтаваць да экзамену - дзеля гэтага неабходны настаўнік, які прынамсі з год перад экзаменам павёў бы з кандыдатам працу. Да экзамену прыступаюць дзеці ва ўзросце 6-7 гадоў. Сам экзамен паказаўся мне, не надта ж музыкальнаму ў сэнсе прыроджаных здольнасцяў чалавеку, найвялікшым жахам. На пачатку малому кандыдату трэба зайграць дзве кампазіцыі на піяніна - адну самастойна, а другую з акампанементам настаўніка /"на чатыры рукі"/. Пазней - праспяваць песню. І тут жа пачынаецца допыт: у якой гэта было танальнасці? Фа-мінор. Добра, дык праспявай нам яшчэ гэта ў такой ды такой танальнасці. І гэтак праз чатыры-пяць іншых танальнасцяў. Затым экзаменатар кажа кандыдату павярнуцца спінаю да піяніна, на якім пачынае выстукваць інтэрвалы. Трэба беспамылкова называць усе гэтыя тэрцы, секунды, квінты і актавы. На заканчэнне экзаменатар совае для нябогі пад нос ноты ды кажа праспяваць запісаную там мелодыю, выбіваючы адначасна метрум. Што тут і казаць, у музычныя школы паступаюць у Беларусі самыя здольныя дзеці.

Маё знаёмства з музычнай адукацыяй у Беларусі на гэтым не закончылася. Нейк ізноў акалічнасці памысна для мяне склаліся - муж Святланы, Хведар Валкоў, рыхтаваўся якраз да завяршальнага экзамену ў музычнай кансерваторыі, у класе класічнай гітары. Удалося пабачыць, ад чаго пачынаецца музычная адукацыя дый трапілася нагода прыглядзецца апошняй яе ступені.



*Слава Корань: ці не фундамент усяго гурту.*

На чацвертым паверсе Менскай музычнай кансерваторыі - зала з дасканалай акустыкай. У ёй жа выдзеленыя для публікі месцы, асобна для камісіі, невялікая сцэна для выканаўцы, побач яе фартэпіяна. Тут праходзяць экзамены. Спярша пайшоў шэраг невялікіх кампазіцый на гітару сола. Паколькі я зразумеў, дык мелі яны даказаць як тэхнічнае майстэрства гітарыста, так і авалоданне ім усіх знамянальных для развіцця гітары стыляў. Цэнтральным пунктам экзамену, а ўсё цягнулася ўжо звыш гадзіны, быў канцэрт /акампанаваў, зразумела ж, не аркестр, а фартэпіяна/. Канцэрт, як мне пазней тлумачылі, мае паказаць спеласць музычнай думкі, якая ажыўляе запісаныя кампазітарам ноты, музычную асабовасць і самастойнасць музыканта. Калі ты дакажаш сваю самастойнасць, дык камісія ў змозе дараваць табе ўзніклыя ад хвалявання тэхнічныя недахопы.

Урэшце ж, пра рок-н-рол. У школах яго не навучаюць. Але нешта ў гэтай музыцы ёсць - гэта, так бы мовіць, асобная музычная культура, якая патрабуе своеасаблівай натхнёнасці. Поп-музыка значыць сваім таўром эстэтычную свядомасць майго пакалення. У Беларусі, якая паволі падымаецца вышэй фальклорнай рэгіянальнасці у музыцы, усё новымі групамі напаўняюцца ўсе выпрацаваныя Захадам стылі поп--музыкі. Колькі з гэтых гуртоў праслізнецца паміж Сцылай і Харыбдай посткаланіяльнай культуры на шырокія воды беларускай, а не ўсяго

СЯРГЕЙ АСТРАЎЦОЎ

## АНШЛАГ

**тэатральнае апавяданне**

1.

У нашым драмтэатры намыслілі да Дня Незалежнасці паставіць якуюколечы патрыятычную п'есу. І нічога вартага не знайшлі. «Тутэйшых» ужо інсцэнізавалі лялечнікі, а чагосьці падобнага нашы напалоханыя драматургі болей ніколі не пісалі. Маўзонаў «Канстанцін Заслонаў» са словамі «Няхай жыве вялікі Сталін!» на прыканцы яўна састарэў, хоць у пазнейшых рэдакцыях сказ гэты знік з тэксту.

Пачалі гартаць Караткевіча й таксама нічога не ўпадабалі.

Расцягнутыя пафасна-гістарычныя, часта кніжныя п'есы іншых, менш вядомых аўтараў, аказаліся яшчэ меней прыдатнымі. А пагатоў, паводле задумы, на сцэне павінны былі змяняцца розныя сучасныя сцягі, у іх ліку і чырвоны.

Не-не-не! Рэжысёр з літпамочнікам нагрувасцілі недакуркамі попельніцу і пачалі хаваць іх у чорным гладышы, падораным некалі й некім папярэдняму гаспадару пакоя...

У гарадское газеце паміж абвестак надрукавалі тэатральны «sos».

2.

Я ніколі дагэтуль не пісаў для тэатру, гэта была першая спроба.

3.

Ён прагна ўталопіўся ў машынапісныя аркушы. То спыняўся, то бегаў па іх вачыма, бязладна перагортваў старонкі, яго пальцы нагадвалі пальцы гліняныя.

Калі ён узняў на мяне галаву, вочы яго адсутнічалі.

- Бяру!.. - выдыхнуў ён. - Але з адной умовай. Рукапіс мы возьмем за аснову.

Аўтарскае самалюбства ў гэтую хвілю здрадзіла мне, сканала ціха й незаўважна. Я крыяў. Зубы мае дробна затрымцелі, я адчуваў зяб.

У шафцы ён наліў па змяшчальным кілішку каньяку. Калі потым схіліўся, працягваючы мне каньяк, дык здаўся мне волатам, а сам я сабе - мізэрным, уціснутым у фатэль.

4.

Мне было напляваць, што яму хацелася нейкага змесу трагікамедыі, фарсу, меладрамы. Я папросту пацэліў, дакладней, мой творчы настрой або нават натхненне і ў выніку сам опус, выпадкова, нечым спадабаліся. Сваёй, магчыма, непрафесійнасцю, якая не аказалася графаманствам.

Й пайшла, зачалася бесцырымонная праца нажніцамі.

- Навошта гэта папросту хата, сяліба прыдарожная? Занадта патрыярхальна і даўно дзесяць разоў абпісана. Лепей хай будзе шынок.

- Дык у нас жа беларуска ў п'есе, бялявая. Шынкаркі былі жыдоўкамі.

- Не-не, трэба каб быў шынок. Мастацтва заўсёды ўмоўнае.

- Ну, шынок дык шынок, - згаджаўся без вялікай упартасці я.

5.

Мне было вядома, што ён не цярпеў у час працы побач сябе нікога, хто не быў заняты ў спектаклі.

На сыгрыўках я сядзеў у цёмнай ложы. Ён не бачыў мяне і не ведаў аб маёй прысутнасці. Пагатоў сядзеў да мяне спінай. У другім шэрагу. Я адчуваў сябе хлопчыкам, які наважыўся на штосьці забароненае. Салодкае пачуццё!

Гронкі пагаслых ліхтарняў. Святло было сціплым. Эканомія ў сценах установы, якая не акуплялася. На мяжы фанабэрыі і жабрацтва... Акторы чыталі пакуль па аркушыках. Рамантычнага атрыбута старой сцэны-чарупіны будкі суфлёра ў новым тэатры не існавала.

Пляск у далоні:

- Сканчайма! Заўтра ў такі ж час...

6.

Ведаю, што ўсё гэта гучыць старамодна і мае металёвы прысмак асkоміны. Ведаю. Аднак я сапраўды назіраў па вечарох у бінокль жанчыну. Бальзакаўскага веку. Мае каханне.

7.

Яна атрымала галоўную ролю. Зрэшты, у п'есе была толькі адная жаночая роля і я ведаў, што атрымае яе яна. Бо я пісаў менавіта для яе, інакш не стаў бы і брацца. У любы амаль час я мог, адарваўшыся ад пісання, убачыць яе. Яна жыла высока й не любіла запавесткі, а гмах стаяў асобна ад іншых. Увечары, праўда, святла ў яе вокнах не было. Вечары акторы праводзяць у тэатры.

Яна жыла пры самой дарозе. Мужык знік у вайне, дзіця памёрла.

беларускамоўнай, музыкі? Хто яго ведае. Напэўна аднак аднаго энтузіязму і музычнай апаратуры малавата дзеля існавання гурту і яго творчай працы. Неабходнае яшчэ інстытуцыянальнае забеспячэнне ў форме фестываляў беларускай поп-музыкі, конкурсаў, аглядаў і г. д. З усім гэтым тугавата ў Беларусі. У суботу 30 траўня Менск адзначыў 925 гадоў свайго існавання. У праграме святкавання былі прадугледжаны і рок-канцэрты. На жаль, сярод дзесятка расейскіх выканаўцаў знайшлося месца толькі для аднаго беларускага гурту /я пра яго ніколі не чуў/.

Самым сталым беларускім гуртом у маім перакананні з'яўляецца менскі «Уліс». Ён дагэтуль найбольш з усіх дасягнуў - запісаў і выдаў два дыскі: «Чужаніцу» і «Краіну доўгай белай хмары». Зрабіў гэта не чакаючы злітавання савецкіх музычных канцэрнаў - запісы зрабіў у Польшчы ды таксама тут выдаў другі дыск /з'явіўся ён, дарэчы, раней за першы, падрыхтоўкай якога займалася «Мелодыя»/. «Уліс» выпрацаваў ужо свой адметны стыль, як здаецца, заправіўся ў змаганні з усялякімі вонкавымі «абстаўцельствамі», прыкладам зала для рэпетыцый, ці арганізацыя канцэртаў у замежжы. Улісаўцы працуюць цяпер пры беларускім ліцэі ў Менску, дырэктарам якога вядомы ў нас на Беласточчыне як фільмовец Уладзімір Колас. Вопыт «Уліса» падказвае, што музыканты самі павінны ствараць як умовы для сваёй працы, так і кан'юнктуру на сваё мастацтва.

**Дарота Кузьміч** у сваім моцна эмацыянальным артыкуле **«Уліс: кліч адвечнага вандроўніка» /"Часопіс", н-р 4, красавік 1992/** праводзіла паралелі паміж менскім гуртом і лёсам міфічнага Уліса. Ці для іншых беларускіх гуртоў шлях у артыстычную сталасць будзе падобным? Баюся, што няраз пакалечацца яны на падводных камянях постсавецкай рэальнасці.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
**Фота аўтара**

# „МОТАКРОС" ПА-НАД МАГІЛАМІ

Мераю нас саміх з'яўляюцца нашыя адносіны да памяці па адыйшоўшых продках. Гэтая праўда актуалізуецца ва ўсялякім часе і варунках. Хрысціянін ведае, што малітва за памёрлых неабходная і праз яе можам выпрасіць у Бога міласць для іх. Ведае хрысціянін, што парушаць супакой могільнікаў, - усё роўна, што парушаць супакой багаслужэння ў храме. Ды і законы агульнай культуры гавораць аб гэтым.

Былі і ёсць аднак сляпыя на гэтыя вартасці і глухія на голас свайго сумлення. Сістэматычна чуем пра дзейную дэвастацыю могільнікаў, пакражу помнікаў і намагільных пліт... Факты такіх злачынстваў кранаюць нас глыбока, асабліва калі адносяцца да нашых найбліжэйшых. Злачынцы найчасцей застаюцца невядомымі, хаця амаль заўсёды ходзяць сярод нас.

«Невядомымі» застаюцца і пастаянныя знішчальнікі праваслаўных могілак у Саколцы. Амаль штогод сістэматычна выбіваюць яны шыбіны ў тутэйшай могільнікавай капліцы св. Паўла. Апошні раз здарылася гэта ў канцы сакавіка гэтага года. Павыбіваныя былі шыбіны ва ўсіх пяці вокнах храма /таксама і ў алтарнай частцы/.



*Выбітыя шыбіны ў вокнах капліцы.*

Дзе шукаць вытокаў і прычын таго фізічнага і маральнага /перш за ўсё/ злачынства?

Настаяцель Сакольскага прыхода а. УладзІмір Місяюк мяркуе, што гэтую пошласць робяць не дарослыя, а падросткі, нават дзеці... «Дык што вымагаць тут ад дзяцей, калі самі бацькі прывозяць сваіх дзяцей зімою на могілкі... саначкамі паз'язджаць» /могілкі распалажаны на высокім узгорку/. Або тыя ж бацькі не рэагуюць, калі іх дзеці - падросткі прыходзяць, каб сярод магіл піць і бутэлькі разбіваць аб помнікі - прадаўжае а. Уладзімір. - Некаторыя людзі проста белым днём баяцца заходзіць на могілкі, каб не трапіць на нейкую «зграю» падросткаў з некультурнымі паводзінамі".

Усе няшчасці сакольскіх могілак пачаліся аднак яшчэ намнога раней. Пасля заснавання праваслаўных могілак /на месцы раней зачыненых каталіцкіх ці уніяцкіх/ была тут пабудавана драўляная капліца. Паводле «Царкоўнай Летапісі» нейкімі рукамі была яна аграблена, а пасля спалена. Сучасная капліца пабудавана ў 1900 г. на магіле Паўлы Канцэвіч.

* * *

Пад могільнікавай агароджаю нейкія «бадзёрыя» хлопцы наладзілі сабе тор для мотагонак. Цэлымі днямі гырчаць матора, хлопцы ездзяць пад магіламі. Можа і сярод іх або іх калег знаходзяцца віноўнікі апаганення сакольскіх могілак?.

Ці гэтыя маладыя людзі, што цяпер падымаюць камень на храм з праваслаўным крыжам, заўтра, калі могуць памяняцца «агульныя настроі», не замахнуцца на крыж са сваёй святыні? Над гэтым выпадае задумацца... Не толькі нам.

**М. САХАРЭВІЧ**
**Фота П.П.**



*Агульны від могілак.*

Жаўнеры ўсіх войскаў спыняліся тут на начлег. Спачатку яна была гасціннай гаспадыняй, потым зрабілася каханкай па абавязку. Госцю, які не бачыць у хаце гаспадара, замала адной вячэры ды вады са студні...

Калі вярнуўся мужык, якога яна ўжо пахавала, дык не здолела легчы з ім у ложак. Банальна? Магчыма. Але гэта наш лёс.

Зрэшты, рэжысёру здалося гэтага мала. Быў ён, дарэчы, з «варагаў». «Ціхі гвалт - гэта прэсна й не цікава», - сказаў, нібы адбіў на друкарцы, ён. Пасцельныя сцэны змяніліся ў яго спектаклі відовішчам патручанага на сялібе варожага войска. «За свабоду і незалежнасць трэба змагацца»...

8.

На прэм'еры было паўнютка гледачоў.

9.

Мы дагэтуль не былі знаёмыя.

Мне дастаўляла таемную прыемнасць ведаць, што яна не знае мяне, але дзейнічае паводле маёй волі /крыху з'іначанай рэжысёрам/, паводле майго пяра. Хвілю знаёмства я па-мазахісцку адцягваў.

Я ніколі не бачыў у яе пакоі мужчын. Гэта дазваляла верыць у свае невялікія сілы. Жыла яна самотна.

10.

Часцюткае рыпенне ложка. Патручаныя жаўнеры. Яна - што тая парыжская Марыяна, патрыётка, гераіня. Яе барыкада - стары дзядоўскі драўляны ложак, сточаны шашалем.

11.

Яшчэ не сціхлі воплескі, як я ўжо прабраўся за кулісы з букетам ружаў... Прыгожая хвіля знаёмства. «Хто вы?!» «Ваш паклоннік!» А што далей, я не ведаў.

Я стаіўся блізка яе пакоя. Але ані хвіліны яна не была сама.

Знаёмства не адбылося.

12.

Яны перакрочылі пляц і ўвайшлі ў рэстаран.

Мне таксама ўдалося ўпрасіць Кузьміча. Ён /зразумела, рэжысёр/ сядзеў да мяне спінай. Я бачыў яе твар, але яна не зважала на мяне, бо мы не былі знаёмыя.

Я пакутваў, успамінаючы, як вальяжна паводзіўся на сустрэчы з гледачамі адзін удачлівы кінарэжысёр.

«У ва ўсіх сваіх фільмах вы здымаеце акторку Н. У 99-ці выпадках са ста гэта сведчыць аб тым, што яна вашая каханка».

«Ха-ха-ха! Вы можаце думаць што хочаце, але наш выпадак - соты». А вочы хітрушчыя.

13.

Кветкі я папрасіў уручыць ёй гардэробшчыка. А сам выйшаў раней, каб рэжысёр мяне не заўважыў.

Яны апынуліся на вуліцы і адразу ўзялі таксоўку, а я амаль няспешна пайшоў на прыпынак і сеў у тралейбус. Ён быў жанатым і ў яго хаце ім не было чаго рабіць разам.

14.

Я выняў бінокль з футаралу й прыклаў акулярамі да вачніц.

Яна паводзілася як заўзятая каханка.

У роспачы я бразнуў бінокль аб падлогу. І не пачуў раструшчанага шкла. Падышоў і падняў. Цэйсаўскі.

Усё, годзе. Заўтра яна будзе маёй.

г. Гародня.



*Група беластоцкай моладзі пры ўпарадкаванні могілак у час велікапоснай сустрэчы-„гавення".*




**З дакументаў Генеральнага штаба (II Аддзела), Варшава 1928.**
— 64 —

Адносна Слуцкага паўстання была прынята наступная рэзалюцыя:

„Сялянская Беларусь, прачнуўшыся з летаргу векавой няволі, распачала змаганне за вольнае і раўнапраўнае існаванне сярод іншых вольных народаў.

Ужо чацверты год Беларусь змагаецца з гвалтам розных акупантаў. У гэтай барацьбе беларускі народ прыйшоў да пераканання, што справа вызвалення і адраджэння яго айчыны ёсць справай яго ўласных рук. Беларускі народ пераканаўся, што ні з Масквы, ні з Варшавы нельга спадзявацца паляпшэння свайго лёсу. Цэлым шэрагам паўстанняў на працягу чатырох гадоў беларускі народ ясна даказаў, куды імкнецца і з кім звязвае свае надзеі.

Найбольш яскравым момантам у гэтай гераічнай барацьбе, апрача паўстанняў на Віцебшчыне, Віленшчыне, Ашмяншчыне і г.д., з'яўляецца Слуцкае паўстанне, калі сам сярмяжны народ стыхійна паўстаў са зброяй у руках за незалежнасць і непадзельнасць сваёй айчыны, аб'яўляючы на сваіх штандарах: „Ні польскіх паноў, ні маскоўскіх камісараў".

Беларуская нацыянальна-палітычная канферэнцыя ў Празе канстатуе, што паўстанне было падаўлена пераважаючымі сіламі з абодвух бакоў. Слава палеглым змагарам!

Беларуская нацыянальна-палітычная канферэнцыя, каб пазбегчы дарэмнага разліву крыві, папярэджвае беларускі народ і загадвае паўстрымацца ад неарганізаваных выступленняў. Трэба пры гэтым моцна аб'яднаць свае сілы, каб у моманце, калі надыдзе пара агульнай народнай рэвалюцыйнай барацьбы за правы кожнага народа, стацца гаспадаром ва ўласнай краіне".

Вышэй прыведзеная рэзалюцыя выразна гаворыць аб рашучых адносінах беларускіх дзеячоў і груповак, якія прымалі ўдзел у пражскай канферэнцыі — да „акупантаў", перад усім да Польшчы, а гэта таму, што ўжо тады эсэраў звязвала з Саветамі тайнае пагадненне і ўсе скіраваныя ў іх адрас пастановы і прэтэнзіі былі выключна формай маскавання існуючага стану рэчаў, робленай з інспірацыі бальшавікоў з разлікам на Еўропу.

Апрача закранутых вышэй спраў, канферэнцыя прыняла прапанаваны Ластоўскім план беларускага паўстання на Віленшчыне і Гродзеншчыне, апрацаваны палкоўнікам Вендтам. Тэрмін паўстання быў назначаны на сакавік 1922 года.

На канферэнцыі беларускія левыя і цэнтрысцкія сілы аб'ядналіся для далейшай скаардынаванай дзейнасці, скіраванай супраць Польшчы.

Частка прынятых на з'ездзе рэзалюцый мела стацца падставай і дырэктывай агульнай беларускай палітыкі, да якой павінны былі прыстасоўвацца ўсе беларускія грамадскія і палітычныя групы.

Што тычыцца староннікаў польскай арыентацыі, дык на канферэнцыі было такіх толькі двое: Дубейкоўскі і Аляксюк. Дубейкоўскі, у сувязі з папсюднымі антыпольскімі настроямі, быў прымушаны да вельмі асцярожнай абароны сваіх дыпламатычных тэзісаў, а Аляксюк, стоячы аднaзначна на грунце польскай арыентацыі, быў катэгарычна варожа трактаваны большасцю ўдзельнікаў канферэнцыі.

*(Працяг будзе)*



Наш карэспандэнт з Гайнаўкі, Войцех Рынажэўскі, некалькі гадоў назад увекавечыў на фотаплёнцы цяжкасці з вадой на вышэйшых паверхах гайнаўскіх блёкаў. Каб выкупацца, трэба было ночччу ваду збіраць у гаршкі. Цікава, ці сёння гэты кашмар з вадой скончыўся?

# СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫ КАМБІНАТ У РЫБАЛАХ

Па дарозе з Беластока ў Бельск, за вёскай Рыбалы здалёк відаць чатыры жылыя блёкі. Жывуць тут працаўнікі сельскагаспадарчага камбіната РСП /Rolniczej Spółdzielni Produkcyjnej/. На месцы, дзе стаяць сёння аб'екты камбіната, яшчэ нейкія паўтара дзесятка гадоў таму гуляў вецер, падымаючы пыл пад аблокі. Цяпер пляц тут вымашчаны бетонам, а перад блёкамі невялічкія агародчыкі з прыгожымі каляровымі кветкамі. Усюды прыкладная, вартая пахвалы чысціня.

Ля самай шашы пастаўлена дошка з надпісам: «Фірмавая крама». Па вельмі карысных цэнах можна купіць тут кураціну, вантробы ды іншыя харчовыя прадукты. Загадчыцай крамы з'яўляецца сімпатычная Анна Гурмінская, якая хутка і спраўна - з неадлучнай усмешкай на твары - абслугоўвае кліентаў.

Краму прадуктамі забяспечвае мясцовая курыная ферма. Гадуецца аднак тут намнога больш птушак, чымсьці патрабуе толькі адна крама. Прадаюць іх, практычна, у цэлай Польшчы. Кіраўніком фермы з'яўляецца Лявон Грыгарук.

Апрача курэй, у рыбалаўскім камбінаце гадуюць таксама свіней, якіх выкарыстоўваюць, галоўным чынам, на свае патрэбы: у сталоўцы ды на продаж працаўнікам. Для патрэб жывёлагадоўлі ёсць уласная мяшальня корму. На месцы таксама лекар ветэрынары Мікалай Галёнка.

Рыбалаўскі РСП апрацоўвае 1138 гектараў зямлі. Сеюць кукурузу, азімы рапс, пшанжыта, яравую пшаніцу, лубін, бобік, садзяць бульбу. Дзякуючы працавітасці рабочых і высокім прафесіянальным ведам адказных за прадукцыю Анны і Валянціна Пашко, збіраюць тут багаты плён.

У жніво рыбалаўскі камбінат абслугоўвае сваімі машынамі таксама акалічных гаспадароў, прычым цэны паслуг - даступныя. Рамонты машын выконвае брыгада механізатараў, якою кіруе Ян Крашынскі. Ёсць тут таксама сталярня, у якой працуюць: Міраслаў Антанюк - кіраўнік і Васіль Леснік - стаяр. Апрача звычайных рамонтаў, робяць яны вокны, дзверы ды іншыя патрэбныя драўляныя элементы.

Старшынёю РСП з'яўляецца Збігнеў Лучко, яго намеснікам - Міхал Грыгарчук. Яны вельмі добрыя арганізатары, дакладна ведаюць, што робіцца ў іхнім камбінаце, плануюць яго развіццё. Ведаюць таксама сваіх падначаленых, усіх гультаёў даўно пазвальнялі; засталіся сумленныя, працавітыя людзі, але і ўмовы працы ў іх добрыя: у кожнага свой участак зямлі, дзе можна вырошчваць сабе гародніну.

Відаць, што для РСП ў Рыбалах банкруцтва - як цяпер многім такога тыпу прадпрыемствам - не пагражае. Дай Бог здароўя яго кіраўніцтву і працаўнікам, каб і ў будучыні праца ім спорылася ў руках, як да гэтай пары.

**УЛАДЗІМІР ГУРАЛЕЎСКІ**

# ПА МЕРЫ МАГЧЫМАСЦІ

*— Пан бурмістр,* — звяртаюся да галавы горада Гайнаўкі, **МЕЧЫСЛАВА ГМІТЭРА**, *— сёння не надта спрыяльны час для вядзення больш сур'ёзных інвестыцыяў, але ўсё-такі бадай нешта плануеце?*

— Зразумела! — З бюджэту горада, які мы ўхвалілі 31 сакавіка г.г. велічынёю амаль 29 мільярдаў злотых, на інвестыцыйную праграму ў 1992 г. прызначаем 5 мільярдаў 685 мільёнаў зл. Думаю, што гэтыя грошы дазволяць забяспечыць асноўныя накірункі развіцця горада.

*— Што ж тады прадбачвае праграма?*

— Нарэшце крыху лепшае палатно атрымае вул. Варшаўская, ды толькі на адрэзку ад вул. Дварцовай да вул. Новаваршаўскай. Пракладуцца там асфальт і тратуары. Асфальт паявіцца таксама на вул. Бацяняй — адной з папярочных да вул. Ліповай; яна знаходзіцца на ўскраіне Гайнаўкі. У працягу вул. Шыманоўскага (у „музычным" квартале горада) у сваю чаргу будзе пракладзена дрэнажная труба.

*— А што з санітарнай каналізацыяй?*

— У бягучым годзе будзе яна разбудоўвацца галоўным чынам у паўднёва-ўсходняй частцы горада, а менавіта на вуліцах Крашэўскага, Калантая, Гандлёвай, Сянкевіча і Жаромскага. Прадбачваецца таксама мадэрнізацыя камунальнай ачышчальні сцёкаў — будуць выменены помпы і трубаправоды. Працягваецца праца і па прадаўжэнню ніткі водаправода. У нейкай меры датычыць гэта аднасямейнага квартала на пасёлку Падляшша. Водаправод будзе пракладзены на Магазыновай, Спіжовай, Ядловай і Аградовай вуліцах — яны ў паўднёва-заходняй частцы Гайнаўкі. У раёне Міжтораў, на вуліцах Мілай, Лагоднай і Ціхай прадбачваецца „кальцаванне" водаправода. Сваё „акенца" ў інвестыцыйнай праграме мае і энергетыка. Збудуецца электралінія магутнасцю ў 15 кілаватаў у аднасямейным квартале Падляшша. Апрача таго, прадбачаны рамонт электраўстаноўкі ў Гайнаўскім доме культуры.

*— А іншыя заданні?*

— Ва ўспомненым ГДК, апрача электраўстаноўкі, рамантаваны будзе фасад і дах. Пачнецца таксама рамонт будынка Гарадской управы (зала пасяджэнняў, прыбіральня). Закончыцца пабудова кацельні на Падляшшы. Плануецца пашырыць аснашчэнне на кааператыўных пасёлках Мазуры, Арміі Краёвай і Падляшша. Апрача таго, рамантавацца будуць дзіцячыя сады, а на пасёлку Мазуры пачне вырастаць пачатковая школа.

*— Як на магчымасці правінцыяльнага горада — зусім нямала!*

Гутарыў
**ПЁТР БАЙКО**

# ЗОРКА

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Выступае «Чабарок»: Юля Тоўсцік, Алена Сухіна, Вольга Ілюковіч, Каця Прышчэпа, Коля Тоўсцік, Іна Баршай, Лена Русак, Іра Гаўрылава. Адрас іх школы: Рэспубліка Беларусь, г. Менск, вул. Варвашэні 58, Музычная школа №8.*

*Фота Міры Лукшы.*

## «ЧАБАРОК» ПРЫЕХАЎ З МЕНСКА

Дзіцячы ансамбль «Чабарок» існуе ўжо два гады, з таго часу, як музыкант Святлана Пузіноўская выпадкова пазнаёмілася з вядомым нам кампазітарам Зміцерам Яўтуховічам. Дзеці займаюцца ў Музычнай школе №8 горада Менска.

Выступае «Чабарок» звычайна на дабрачынных канцэртах: перад інвалідамі, ветэранамі, у інтэрнатах, давалі таксама канцэрты ў анкалагічным цэнтры - для дзяцей, пацярпеўшых ад чарнобыльскай аварыі. Святлана Пузіноўская лічыць, што музыку - асабліва дзіцячую - нельга пераводзіць на камерцыйныя рэйкі.

На Беласточчыну прыехала толькі частка калектыву. Узрост дзяцей - 9-11 гадоў. Разам з імі быў кампазітар З. Яўтуховіч, і студэнт кансерваторыі скрыпач Алёша Яўтуховіч. Госці выступілі ў школе ў Нарве і Гарадку, пабывалі ў Белавежы. Салістам упершыню давялося даваць аўтографы. Найбольш спадабаліся Каця Прышчэпа і Коля Тоўсцік у песні «Забіяка». Вельмі шчыра ўспрымалі гледачы Дзіму Яўтуховіча /вялікі талент кантакту з моладдзю і дзецьмі!/, які спяваў свае творы разам з маладымі артыстамі /усе песні - яго кампазіцыі/, іграў на гармоніку і піяніна. Большасць песень З. Яўтуховіча можаце знайсці ў «Зорцы» і «Ніве» - друкаваліся словы песень і ноты. Кожны вечар па радыё гучыць яго «Калыханка» ("Баю-баю, люлі-люлі - гэта песенька матулі...") ,у беластоцкіх беларускіх радыёперадачах вельмі папулярныя песні «Даставай, Язэп, гармонік!» ці «Беларусь», «А ў гасцях»...

У Менску арганізавала гэту паездку беларуска-польскае прадпрыемства «Сінэс». Матэрыяльна шмат дала Шматпрофільная вытворча-камерцыйная фірма «Гея». Фірма «Амега» дапамагла «Чабарку» з начлегамі. Госці начавалі ў маленькім настаўніцкім гатэлі ў цэнтры Беластока ( тут вялікае дзякуй пані Гражынцы і дырэктару Ваяводскага мэтадычнага цэнтра, пану Малешы). Дзеці з «Чабарка» вельмі пасябравалі з суседскімі - на зацішным падворку гатэліка дзеці дапамагалі сабе і рукамі, і прасілі перакладчыкаў, але не было вялікіх праблемаў, каб выказаць свае пачуцці. Суседскія хлопчыкі прынеслі на развітанне цудоўныя кветкі, былі нават слёзы. Як спадабаўся «Чабарок», яго песні і... салістка , сведчаць надпісы на асфальце перад школай у Гарадку і ў Беластоку: «Каця - мы цябе кахаем!», «Nigdy was nie zapomnimy».

**М. ЛУКША**

## ПАЛЯЎНІЧАЯ ВЕШАЛКА

Задумаў я паляўнічую вешалку зрабіць. Толькі вось бяда - ласіных рагоў у мяне не было.

Ласі кожны год рогі скідаюць. Але паспрабуй знайдзі ты іх, гэтыя рогі. Старыя кажуць, што разумныя жывёлы ў балоце іх затоптваюць. Таму і трапляюцца на вочы рэдка.

Было ў мяне на прыкмеце адно глухое балота. Дзе ж яшчэ, як не там, клад ласіных рагоў шукаць?

Асеннім днём прыходжу на балота. Ступаю ціха па мяккім куп'і, прыглядаюся.

Зірк - белыя снежкі на зялёным моху ляжаць. Нямала, мабыць, з дзесятак.

Падыходжу бліжэй, аж гэта - белыя курапаткі. Снегу яшчэ няма, а яны па-зімоваму апрануты. Беленькія, у мяккіх валёначках, толькі вочы чорныя, бы тыя канаплінкі блішчаць.

Што ж, думаю, не знайшоў рагоў, то хоць за курапаткамі паназіраю.

Збіралі птушкі падмёрзлыя журавіны, збіралі, а потым - шусь і паляцелі.

Што за відовішча - белыя птушкі над шэра-зялёным балотам! Колькі жыву, ніколі такой прыгажосці не бачыў.

Толькі курапаткі зніклі, гляджу - лось з кустоў выходзіць. Гэта ён іх, аказваецца, спудзіў. На галаве - рогі. Не паспеў яшчэ скінуць.

Вось, радуюся, і вешалка сама да мяне прыйшла. Дый добрая! Галінак каля дзесяці на кожным розе. Цэлая карона.

У думках прыкідваю, куды павешу стрэльбу, патранташ, бінокль, паляўнічы капялюш.

Лось быццам здагадаўся аб маіх думках, кінуў у мой бок незадаволены позірк і паволі падаўся з балота. Надта ганарлівы, відаць. Не пажадаў пры мне сваю дарагую карону знімаць. А можа, і нельга, рана яшчэ?

Што ж, мы, паляўнічыя, народ цярплівы. Пачакаю, лось рогі абавязкова скіне. А пакуль што павешу паляўнічае начынне на цвік. Няхай часова на ім павісіць.

**РЫГОР ІГНАЦЕНКА**



## Вершы Віктара Шведа

### Я НЕ ГЛЯДЖУ ЗУБАМІ

У кабінеце лекар груба
Адзываецца да Колі:
- Думаю, што твае зубы
Пасты не бачылі ніколі!

Мікола лекару на гэта
Рэзка адказвае таксама:
- Ваша нядобрая прыкмета,
Я не гляджу на свет зубамі!

### ЦІ МАМА СПІЦЬ ТАКСАМА?

Ноччу цёмнаю сынок
Едзе з горада дахаты.
Задрамаў ужо дзядок
І захроп магутна тата.

Сядзіць мама за рулём,
Сон страшэнна мучыць маму.
Запытаўся сын Арцём:
- Ці ты, мама, спіш таксама?

### У ВЕСЦЫ РАМАНТУЮЦЬ КОНЕЙ

Многа ўгледзеў Лёня ў вёсцы
Розных дзіваў на палосцы.
- Сёння ў вёсцы, - кажа Лёня,-
Рамантуюць нават коней.
Там у кузні, ля дарогі,
Прыбіваюць коням ногі.
Там угледзець можна вокам
Тэхніку на кожным кроку!

### ЦІ ВЕДАЕШ, ТАТА, ДЗЕ ЛЯЖАЦЬ КАРПАТЫ?

- Ці ведаеш, тата,
Дзе ляжаць Карпаты?
- Не знаю таксама,
Запытайся ў мамы.
Яна ж, як вядома,
Балаганіць дома.
І напэўна, Федзя,
Закінула недзе.

## ПРА НАДВОР'Е

1. Дым проста ідзе - будзе пагода.

2. Ластаўка нізка лётае - будзе дождж.

3. Сарокі на плот садзяцца - будзе завіруха.

4. Краты крычаць - будзе цёпла.

5. Камары стоўбіка б'юць - будзе цёпла.

6. Дым качаецца - будзе дождж.

7. Цёплага месца кот шукае - мароз будзе.

8. Кот ляжыць на падлозе - цёпла будзе.

9. Дождж падае і жабы выйдуць на бераг - будзе грымець.

10. Кот дзярэ кіпцюрамі дрэва - будзе вецер.

11. Пеўні спяваюць - будзе пагода.

12. Цвыркуны іграюць - ноччу будзе дождж.

**Пачатковая школа ў Клейніках.**



*Кампазітар Дзіма Яўтуховіч абяцае напісаць для дзяцей яшчэ не адну песню!* Фота Міры Лукшы

# ЯК СЕРП ПАМАЛАДЗЕЎ

КАЗКА

Жыў на свеце Серп. Працаваць любіў: улетку цэлы дзень, ад рання да вечара, на полі прападаў. Не ўгледзеў, як старасць падкралася, загнала яго пад страху.

Ляжаў Серп пад страхою, ляжаў - надакучыла. «Прайдуся - вырашыў ён, - пагляджу, што на белым свеце робіцца». Глянуў у люстэрка - і спалохаўся: «О-ё-ёй! Як я пачарнеў! Увесь у нейкіх рыжых плямках!» Шкада стала сябе, гаротніка, хоць заплач.

«Чым так жыць, лепей са свету сысці», - зусім упаў у роспач Серп . І пасунуўся крадком, паўз агароды, куды вочы глядзяць. Мінуў родную вёску, прадраўся праз густы алешнік, выйшаў на поле. Бачыць - прама на яго Камбайн плыве. Хацеў серп схавацца ў жыце, ды не паспеў: Камбайн ужо спыніўся побач.

- Здарова, брат! - загрымеў на ўсё поле.

«Знайшоў брата... - панурыўся Серп. - Відаць, здзекуецца».

Але Камбайн нібы ўгадаў яго думкі, кажа:

- Ідзі зірні на мае нажы.

Серп гладзіў вострыя зубчыкі і дзівіўся: - Гэта ж трэба, як мае! - Ну вось, сам пераканаўся, што ты - мой старэйшы брат.

Серп заўсміхаўся.

Шчаслівы, нібы зноў на свет нарадзіўся. І пабег за Камбайнам. Каласкі нізка кланяліся яму, радасна шапталіся: «Глядзіце, не забыўся! Цяпер ні адно наша зярнятка не прападзе...»

Ражкі жыта, якія мінаў Камбайн, Серп зжынаў. Ен так запрацаваўся, што не заўважыў, як сонца скацілася за гарызонт.

- Канчай работу! - гукнуў Камбайн. - Бачыш, збажына адсырэла.

Але Серп не разгінаўся: раса яму не перашкода, дый па любімай справе занудзіўся. Працаваў, пакуль зусім не сцямнела. Падумаў: «Дзе ж Месяц?» А той якраз з-за воблакаў выплыў, дзівіцца:

- Вось дык сустрэча! А казалі, ты на пенсіі...

- Жніво, няма калі вылежвацца, - сказаў Серп. - Пасвяці мне, Месяц.

- Добра, - згадзіўся Месяц. - Выручаў цябе раней, выручу і цяпер.

Светла стала - як удзень.

Серп зжаў усе ражкі жыта, што вытыкаліся збоч дарогі, скрозь паўз алешнік. Стомлены, вярнуўся дадому, пад родную страху. Глянуў у люстэрка і вачам сваім не паверыў: «Вой, няўжо гэта я?!»

З люстэрка глядзеў на яго бліскучы, без адзінай рыжай плямкі Серп.

СЯМЁН БУДЗЮХІН



## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

### РЫБАК

Сярожа, ты куды хадзіў учора з вудай?
На возера рыбу лавіць.
І многа налавіў?
Ды так кілаграмаў пяць.
А я сёння ні адной рыбкі не злавіў...
Гэта ж я ўчора ўсю вылавіў!

### НА ЎРОКУ ГЕАГРАФІІ

-Іра, назаві карысныя выкапні, якія ёсць на Беларусі,- сказала настаўніца.
-Бульба, буракі, морква... - пачала бойка пералічваць дзяўчынка.
-Гэта гародніна, а не выкапні,- напомніла настаўніца.
-Я ведаю!- падняў Міша руку.- Смаловыя карчы!

### НЕ ЗМАГЛА ПЕРАЛІЧЫЦЬ

Аня і Феня збіралі ў лесе грыбы. Раптам Аня і пытаецца ў Фені:
-Колькі ты грыбоў ужо знайшла?
-Столькі, што і пералічыць не магу,- адказала Феня.
Аня паглядзела ў яе кошык: там было пуста.

### АДГАВОРКІ, АДГАВОРКІ

Вова, Бора і Зоя не зрабілі дамашняга задання.
-У мяне галава балела,- сказаў Бора настаўніцы.
-А ў цябе?
-А ў мяне жывот балеў,- адказаў Вова.
-Ну, а ты што скажаш, Зоя?
Зоя маўчала.
-Гавары! Чаго маўчыш?
Дзяўчынка заплакала:
-Вова і Бора ўсё сказалі...

НІЧЫПАР ПАРУКАЎ

# КОТ

Гэтую вольналюбівую істоту не засадзіш у клетку, як папугая ці пацука. Тым не менш пачынаць сувязі з кватэрнымі жывёламі можна менавіта з ката. Гэта другая пасля сабакі жывёла, якую прыручыў чалавек. Здарылася гэта на Блізкім Усходзе 9-10 тысяч гадоў назад, а не ў Егіпце 5 тысяч гадоў таму, як лічылі яшчэ нядаўна. Прычым, на думку сучасных даследчыкаў гісторыі свойскіх жывёл, не чалавек праявіў ініцыятыву ў яе адамашванні, а яна сама прыйшла да нас у пошуках корму і абароны. Пры гэтым кот рупліва зберагае сваю незалежнасць і таму менш, чым хто іншы, адрозніваецца ад сваіх продкаў. Як і сапраўдным дзікунам, яму больш падабаюцца мясціны, чым іх гаспадары. Таму калі людзі перавозяць катоў на новае месца жыцця, шмат якія з іх вяртаюцца назад. Напрыклад, кот па мянушцы Чапа самастойна пераадолеў паўтары тысячы кіламетраў ад Вольска на Волзе да Екацерынабурга. А рэкорд належыць кату, які за 5 месяцаў прайшоў звыш 4 тысяч кіламетраў ад Нью-Йорка да Каліфорніі. І адразу заняў месца ў свім любімым крэсле. Дарэчы, амаль кожны кот мае ў кватэры свой любімы куток - ля каларыфера, на печцы ці канапе. Такое свавольства мы ім ахвотна даруем, улічваючы іх акуратнасць і тактоўнасць, асабліва пародных кошак, якія не бадзяюцца абы-дзе.

тЦяпер спецыялісты налічваюць ад 50 да 300 парод, якія часта адрозніваюцца адна ад другой толькі афарбоўкай вачэй або носа. Таму дакладней будзе згадзіцца з наяўнасцю «ўсяго» 200 парод. Яны падзяляюцца на доўгавалосых (персідскія, турэцкія, у тым ліку ангорскія, і інш.), кароткавалосых (еўрапейскія, амерыканскія, кітайскія і экзатычныя), тых, што знаходзяцца паміж імі (руская блакітная, бірманская, бамбейская, гавайская...), пяшчотных і далікатных (сіямскія) і тых, што маюць нетрадыцыйную будову цела (рэксы, японскія і іншыя). Для нашых умоў і магчымасцей лепш за ўсё падыходзяць еўрапейскія, рускія блакітныя, персідскія і сіямскія.

Э. САМУСЕНКА



# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

## МЫШКА ПІК-ПІК - ГАНГСТЭР

У Веранічкі было шмат прыгожых сукенак і спаднічак. Яна любіла іх прымерваць перад люстэркам. А яшчэ больш падабалася ёй надзяваць мамін капялюш, маміны туфлі і бліскучы шалік. Паглядзела аднойчы мышка Пік-Пік, як Веранічка круціцца перад люстрам, і падумала:

- Я ж таксама пекная паненка! Прыгожая, фігурыстая. Чаму ж не маю розных апранах?

Зажмурылася мышка, крыўдна ёй зрабілася. Вырашыла пайсці на кухню і з'есці што-небудзь з гора. А па дарозе зірнула на Веранічкіных лялек. Іх было шмат, і ўсе шыкоўна апранутыя.

- Вось бы мне такія сукенкі! - пазайздросціла мышка, і ноччу ў норцы прыйшла да цалкам разумнай высновы: няма іншага выйсця, як адабраць у лялек адзежу!

Як адбіраць рэчы, мышка выдатна ведала з кінастужак, і таму пачала сур'ёзна рыхтавацца: скрала Веранічкін пісталецік, які страляў пластмасавымі шарыкамі, і чырвоную капронавую шкарпэтку. Наступнай ноччу рушыла Пік-Пік на «справу»: на галаву надзела шкарпэтку з дзвюма дзіркамі для вочак, у правай лапцы трымала пісталет, а ў левай - мех для здабычы.

Бесклапотныя лялькі нічога не падазравалі, але раптам маленькі рабаўнік з чырвонай шкарпэткай на галаве наставіў на іх пісталет: - Рукі ўгору! Я вас рабую! Здымайце сукенкі!

Але дурныя лялькі, відаць, аслупянелі ад страху і не варушыліся. Давялося мышцы самой забіраць здабычу. У мех улезла шмат сукенак, спаднічак, фартушкоў, гарсэтаў, туфелек, шкарпэтак. Гангстэр павалок усё ў норку, на радасцях забыўшыся на пісталет.

У норцы мышка доўга перабірала ўборы, прымярала, круцілася перад люстэркам, узятым з мамінай сумкі. Але хутка ёй гэта надакучыла, і захацелася каму-небудзь паказацца ў новай вопратцы. Але тут Пік-Пік з засмучэннем зразумела, што паказацца ў нарабаваным нікому ў доме яна не можа!

Захацелася мышцы есці. Але што, калі па дарозе на кухню сустрэне яна каго-небудзь, а той і папытаецца: «Пік-Пік, ці не ты ўзяла ляльчыну адзежу?» Фу, як сорамна!

Паспрабавала мышка паспаць, і ў сне ўбачыла, як лялькі шукаюць сваю вопратку.

Прачнуўся бедны гангстэр ад страху. Не, ад такога жыцця толькі пахудзееш! Сабрала мышка ў мех сваю здабычу і аднесла, адкуль узяла.

І Пік-Пік больш ніколі не спрабавала быць гангстэрам, бо пераканалася, што нарабаванае не прыносіць шчасця.

ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ

УЛАДЗІМІР АРЛОЎ

# ХТО ВЫКРАЎ КРЫЖ ЕЎФРАСІННІ?

У лета 6669 ад стварэння свету, а ад нараджэння Хрыстовага — 1161 полацкі майстар Лазар Богша стварыў па заказе асветніцы Еўфрасінні Полацкай свой славуты крыж — шэдэўр старажытнабеларускага ювелірнага мастацтва. Змешчаны на крыжы заклён абяцаў страшную кару таму, хто ўкрадзе, аддасць або прадасць святыню. Але страх перад Божым пакараннем не быў неадольны. Крыж Лазара Богшы чакала сапраўдная адысея, поўная таямніц і прыгодаў.

Неўзабаве пасля смерці падзвіжніцы рэліквію вывезлі з полацкага храма Спаса ў Смаленск, адкуль яна ў 1514 годзе, пасля захопу гэтага старажытнага беларускага горада Васілём III, трапіла ў Маскву. У часе Лівонскае вайны Іван Жахлівы загадаў вярнуць крыж на ранейшае месца — напэўна, хацеў замаліць учыненыя па ягоным загадзе ў Полацку крывавыя злачынствы. Пасля вызвалення горада войскамі Стэфана Баторыя царква, дзе знаходзіўся крыж, перайшла, паводле каралеўскага загаду, да ордэна езуітаў. З таго часу палачане захоўвалі рэліквію ў Сафійскім саборы, які з канца XVI стагоддзя да 1839 года быў уніяцкім храмам. Разумеючы ўплыў нацыянальнае святыні на вернікаў-беларусаў, езуіты вялі судовы працэс, каб вярнуць крыж у Спасаўскую царкву. Праграўшы суд, яны зрабілі няўдалую спробу выкрасці рэліквію, падмяніўшы яе падробкаю.

Калі ў 1812 годзе Полацк на колькі месяцаў трапіў у рукі французаў, крыж перахоўвалі ў сцяне Сафійскага сабора ў замураванай нішы.

Пасля гвалтоўнага скасавання царскімі ўладамі уніі полацкі архіепіскап Васіль Лужынскі, які перайшоў у праваслаўе, зрабіў з крыжам святой Еўфрасінні падарожжа ў Маскву і ў Пецярбург. У паўночнай сталіцы рэліквію ў саборнай царкве Зімовага палаца агледзеў імператар Мікалай І. Існавала небяспека, што святыня можа назаўсёды застацца ў Пецярбургу, але на цара і прыдворных, відаць, паўплываў старажытны надпіс з заклёнам.

23 траўня (ст. стылю) 1841 года, у дзень памяці св. Еўфрасінні Полацкай, хросны ход урачыста перавёў рэліквію з Сафійскага сабора ў храм Спаса. Крыж паклалі ў келлі, дзе асветніца пражывае свае апошнія гады.

Лёс крыжа Еўфрасінні Полацкай у савецкі час варты асобнага нарыса, які будзе нагадваць дэтэктыў.

У 1921 годзе крыж рэквізавалі бальшавікі. Так з-пад апекі духавенства ён сярод іншых царкоўных каштоўнасцяў трапіў пад чорнае крыло ОГПУ, установы, што займалася ў краіне ўсім, у тым ліку і нацыянальнымі святынямі.

З канца дваццатых гадоў не забяспечаная дэмакратызацыяй грамадства палітыка адраджэння нацыянальнай культуры, вядомая пад назваю „беларусізацыі", пачала па камандзе з Масквы хутка згортвацца. Пасля публікацыі ў 1928 годзе пагромнага артыкула сакратара ЦК КПБ(б) Беларусі Вільгельма Кнорына „Аб рашаючых „дробязях" у вялікім пытанні" распачынаецца падрыхтоўка да расправы з нацыянальнай інтэлігенцыяй. Наперадзе незлічоныя арышты, этапы, лагеры і расстрэлы...

У той трывожны час былы прэм'ер БНР, дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея Вацлаў Ластоўскі, выязджае з адмысловаю экспедыцыяй у Полацк. Мэта — пошукі неацэннага твора Лазара Богшы.

Крыж Еўфрасінні „знайшоўся" ў мясцовым фінаддзеле і быў перавезены ў Менск. Але над рэліквіяй ужо навісла пагроза. Наступ на беларускую культуру працягваўся. „Чыстка" ішла не толькі сярод людзей, але і сярод музейных экспанатаў. Грунтоўна ператрасалі фонды, і найперш, вядома, у музеі, на чале якога стаяў такі нядобранадзейны чалавек, як Ластоўскі. Частку экспанатаў па загадзе пільных апекуноў нацыянальнае культуры вывозілі за межы Беларусі або проста знішчалі. Найбольш дарагія рэчы забіралі ў сталіцу сталінскае імперыі. Паводле звестак беларускага даследчыка з ЗША Вітаўта Тумаша, зроблены ў часе другой сусветнае вайны перагляд інвентарных кніг паказаў, што ў 20—30-я гады з Беларускага дзяржаўнага музея ў Маскву вывезлі ўсе самыя каштоўныя абразы, увесь залаты і срэбны посуд, збор слуцкіх паясоў і народных строяў, калекцыю старажытных манет з беларускіх скарбаў, унікальныя архіўныя матэрыялы. Пад кіраўніцтвам ОГПУ адбываўся рабунак культурнае спадчыны народа з мэтаю разбурэння яго нацыянальнае свядомасці.

Гэтае злачынства напачатку праходзіла пад выглядам эвакуацыі каштоўнасцяў далей ад дзяржаўнае мяжы. Страх перад „інтэрвенцыяй міжнароднай буржуазіі" разам з іншымі ўнутранымі прычынамі нарадзіў ідэю перанесці сталіцу БССР у Магілёў. Горад рыхтаваўся да новай ролі. Ішло метадычнае знішчэнне храмаў, уадначас у Магілёў пераводзіліся рэспубліканскія ўстановы, будаваўся Дом урада. У 1929 годзе ў Магілёў трапіў і крыж Еўфрасінні Полацкай.

Апублікаваныя доктарам Тумашам у „Запісах Беларускага інстытута навукі і мастацтва" ў Нью-Йорку дакументы дазваляюць прасачыць ход гэтых падзей.

21 лістапада супрацоўнік аддзела фельд'егерскай сувязі Паўнамоцнага прадстаўніцтва ОГПУ па Беларускай вайсковай акрузе тав. Лугаўцоў атрымаў ад начальства даверанасць „на право получения ценностей из Государственного Музея для отправки таковых в гор. Могилев". Даверанасць падпісалі начальнік фельдаддзела А. Іваноў і інструктар А. Пішчык.

*(працяг у наступным нумары)*

## ВАРТА ВЕДАЦЬ, ШТО...

Самы просты і вельмі карысны сродак — **морква**. Ужо даўным-даўно лекары лічылі яе найбольш эфектыўнай з лекавай агародніны. Агульнавядома, наколькі багатая морква правітамінам А (ці карацінам), які ператвараецца ў арганізме ў прысутнасці жывёльных тлушчаў у паўнацэнны вітамін. Менш ведаюць пра складаны эфірны спірт іназіт, што ўваходзіць у састаў караціноідаў. Пры яго недахваце цярпяць не толькі нервы і страўнікава-кішэчны тракт, але можа быць запаленне скуры і прыкметнае аслабленне зроку.

Пры дэфіцыце ў арганізме нікацінавай кіслаты (вітаміну PP), якой шмат у моркве, чалавек становіцца вялым, узнікаюць галаўныя болі, з'яўляецца шум у вушах, страчваецца пачуццё раўнавагі.

Вітамін Е (яго ў моркве ў чатыры разы больш, чым у бураках) каштоўны тым, што дапамагае іншым вітамінам лепш засвойвацца. Адсюль у морквы такое універсальнае і мяккае лячэбнае ўздзеянне на ўвесь арганізм. Багаты гэты смачны караняплод і фоліевай кіслатой, без якой у чалавека развіваецца малакроўе.

А колькі ў ім мінеральных рэчываў! Магній, які спрыяе выдаленню халестэрыну, расшырае сасуды і зніжае спазмы жоўцевага пузыра і 12-перснай кішкі. Ванадый, кобальт, бор, ёд і ў першую чаргу цынк актыўна ўдзельнічаюць у крыватварэнні і паляпшаюць функцыю палавых органаў, а ёд — і шчытападобнай залозы. Так што людзям, якія жывуць у раёнах з павышанай радыеактыўнасцю, морква асабліва патрэбна. Тым больш, што дваццацігадовае назіранне амерыканскіх вучоных з Нацыянальнага інстытута ракавых хвароб пацвердзіла адкрытую старажытнымі ўласцівасць морквы процістаяць ракаваму захворванню.

Маркоўны сок (свежы) рэкамендуюць піць да 0,5—1 шклянкі ў дзень. І ні ў якім разе не перабіраць. Лепш прымаць яго раніцай, а ўвечары — салата з цёртай морквы з мёдам і смятанай.

**А. ПРАЛЕСКА**

## БІЗНЕС-КЛУБ

Пры Расейскім цэнтры культуры і інфармацыі ў Варшаве (вул. Фоксаль 10) дзейнічае Таварыства „Бізнес-клуб" — пазаўрадавая арганізацыя, якая аб'ядноўвае прадстаўнікоў прыватных, кааператыўных і дзяржаўных фірмаў, зацікаўленых гаспадарчым супрацоўніцтвам з Усходам.

Бізнес-клуб вядзе сваю дзейнасць згодна польскім і замежным законам, утрымоўвае лучнасць з замежнымі гандлёвымі арганізацыямі ў Польшчы, супрацоўнічае з фірмамі ў Расіі, Украіне, Беларусі і ў іншых дзяржавах СНД, якія імкнуцца наладзіць кантакты з польскімі партнёрамі.

У кожную трэцюю сераду месяца ў Варшаве адбываюцца кантактныя сустрэчы бізнесменаў з Польшчы і Усходу. Найбліжэйшае спатканне адбудзецца 24 чэрвеня г.г., а 11 гадз. на вул. Фоксаль 10, а ўдзел у ім прымуць члены кіраўніцтва Пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы і прадстаўнікі бізнесу з Беларусі. Дадатковыя інфармацыі можна атрымаць па тэлефоне або факсе: 27-86-87 і 27-76-23.




Даражэнькае Сэрцайка! Пішу вось табе і думаю: колькі ж гэта чалавек можа ўсяго перажыць?!!

Выйшла я замуж з вялікага кахання. Неўзабаве зацяжарыла. Муж мой жыў з бацькамі. Маці яго ўжо была немаладая і я стала апякункай недалужнага свёкра. Ляжаў самотны, паралізаваны пасля кровазліцця. Ці ж я магла дазволіць сабе ў той момант на дзіця?! Пагаварылі з мужам, і я перарвала сваю першую цяжарнасць.

Ад таго часу распачалася мая трагедыя. Стары свёкар неўзабаве памёр. Не было ўжо патрэбы апекавацца кімсьці, як дзіцём. Мы атрымалі сваю кватэру. Я засумавала па маленькім. Распачаліся пробы. Кожная цяжарнасць канчалася выкідышам. Мужа кахала я страшна і ведала, як ён чакае дзіцяці. Але пачала атрымліваць з розных бакоў весткі, што ён мне здраджвае. Нягледзячы на ўсё, я верыла яму. Неяк заўсёды ўмеў так растлумачыць, дзе быў, а часамі — і дзе заначаваў, так пераконваў мяне ў каханні, што нельга было не верыць яму.

Між тым восьмая мая цяжарнасць закончылася нараджэннем сыночка. Пяць месяцаў адлежала я ў бальніцы. Сыночак памёр адразу пасля нараджэння. Я была зусім разбітая. Сяброўка якраз нарадзіла таксама хлопца. Я пайшла да яе ў адведкі, а яна: „Бася! А дзе ж твой жывот?!" — і ў плач. Я пачала плакаць разам з ёй.

Муж мой быў вельмі сардэчны ў адносінах да мяне. Стараўся суцішыць мяне ў гэтым горы. А людзі даносілі, што мае некага іншага. Я надалей ім не хацела верыць.

Так мінула яшчэ пару гадоў. Я больш не зацяжарыла, але пра развод мы з мужам ніколі не гаварылі. Было нам разам добра.

Былі якраз імяніны маёй свякрухі. Я ў той дзень працавала на другой змене. З кветкамі і падарункам меў пайсці да яе мой муж. Яна ж заўсёды рыхтавалася да гэтага дня і чакала нас. Сяброўка ў лабараторыі вырашыла выручыць мяне на рабоце. Была яшчэ восьмая гадзіна вечара, і я пастанавіла заскочыць да свякрухі, каб прынамсі асабіста павіншаваць яе і пацалаваць.

Я пазваніла ў дзверы. На парозе паявілася дзяўчынка гадоў сямі. „Тата! Гэта да цябе", — кінула яна ў бок майго мужа. Я ўвайшла ў гасціную. Унутры ў мяне ўсё пахаладзела. За сталом сядзела мая цешча, мой муж і даволі маладая жанчына, якую гэта дзяўчынка называла мамай. Я самлела.

Ізноў апынулася ў бальніцы, а калі выйшла — адразу падала на развод. У сваё 35 гадоў я стала сівенькая, як голуб. Мой былы муж з той жанчынай не ажаніўся, але маюць другое дзіця. Як ты думаеш, Сэрцайка, а мо сапраўды ён кахаў мяне?

**Барбара**

Бася, найдаражэйшая! Людскія цярпенні не маюць граніц. Тады, калі ты вылежвала тое дзіця, твой муж пацяшаўся з іншай. Маці яго, праўдападобна, пра ўсё гэта ведала. Але што ж тут зробіш — сваё дзіця заўсёды бліжэйшае, чым нявестка. Мо твой муж і кахаў цябе па-свойму. Прынамсі ясна, што не хацеў цябе крыўдзіць, дамагаючыся разводу. Відаць, бачыў, як церпіш, як стараешся зрабіць усё, каб нарадзіць дзіця. Калі згадзіўся мець дзіця з іншай, бадай ужо не верыў, што ў цябе нешта выйдзе.

Самае страшнае ва ўсім гэтым, што здаўна, праўдападобна, быў звязаны з той жанчынай, і ўсе даносы былі праўдзівыя. Ці ж спаў з ёй толькі дзеля таго, каб мець дзіця?.

У тваёй трагічнай сітуацыі можа знойдзецца яшчэ ясны прамень, які асветліць тваё жыццё праўдзівым цяплом і каханнем...

**СЭРЦАЙКА**

## ІМПАРТГУМАР

Чалавеку, які заснуў у аўтобусе, выпадкова наступілі на нагу. Ён ускапіўся і заапладзіраваў:

— Што з вамі, грамадзянін?
— Звычка мінулых гадоў. Калі я засынаў на сходзе, мой таварыш заўсёды наступаў мне на нагу, калі патрэбны былі апладысменты.

* * *

У кніжным магазіне.
Пакупнік:
— Ёсць у вас кніга „Як стаць багатым за тры месяцы?"
— Зразумела, сэр. Ды я б параіў купіць яшчэ адну.
— Якую?
— Крымінальны кодэкс.

* * *

Служачы дырэктару:

— Я працую ў вас ужо шэсць гадоў і яшчэ ні разу не прасіў аб павышэнні зарплаты.
— Вы няправільна ставіце праблему, мсье Дзюпон, — адказаў дырэктар. — Вы сапраўды прапрацавалі ў нашай фірме шэсць гадоў, але менавіта таму, што ніколі не прасілі аб павышэнні зарплаты.

* * *

Прыбіральшчыца, якая прыйшла вечарам прыбіраць у банку, сутыкаецца з дырэктарам, які замыкае выхадныя дзверы.
— Пане дырэктар, ці вы не дасце мне ключы ад сховішча каштоўнасцей?
— Ніколі. Толькі я і наш галоўны бухгалтар ведаем шыфр замка ад сховішча!!!
— Шкада. А то мне кожны вечар даводзіцца некалькі мінут калупацца шпількай, пакуль адамкну замок, каб падмесці там...

* * *

Адвакат: Ці ведаеш ты, што будзе за фальшывыя паказанні?
Падсудны: Ведаю. Мяне за гэта павесяць.
Адвакат: А ці ведаеш ты, што будзе, калі ты скажаш праўду?
Падсудны: Мы прайграем працэс.

* * *

Камандзір гаворыць перад строем:

— Мне патрэбны дзесяць добраахвотнікаў для выканання небяспечнага задання.
Тут жа адзін салдат выходзіць з першага раду і адыходзіць у бок.
— Што гэта значыць, Дзюпон? — пытае камандзір.
— Я хачу зрабіць месца для добраахвотнікаў.

Падборку зрабіў
ЯСЕНЬ






Таццяна Серга

## ХАЧУ ЗАМУЖ

Замуж хачу. Не, вы не зразумелі. Муж у мяне ёсць. Як бы гэта вам растлумачыць? Ну вось вы, напрыклад, не басанож прыйшлі. А хочаце італьянскія туфлі? Вось бачыце. У вас ёсць, а вы хочаце. І ў мяне муж ёсць, а замуж усё-такі хочацца. Не яшчэ раз. А проста замуж. Да гэтай пары не зразумелі? Ну вось вы чаю хочаце? А што ў вас у пакецiках? Чай грузінскі? Чаго ж вам яшчэ трэба? Чаю? Дык у вас жа ёсць. А-а-а! Вы чаю хочаце. А той тып яшчэ большага. Есці няма чаго, а ён галадоўку аб'явіў. Яна ўжо ёсць, а ён яе аб'явіў! І чакае, якая рэакцыя будзе з боку парламента.

А цяпер кватэра... Яна ў мяне ёсць. А я ўсё роўна хачу кватэру. Тое, што ў мяне ёсць, хіба кватэра? Я і хачу кватэру! Адчуваеце розніцу? І аб зарплаце мару. Не, не аб вялікай... І нават не аб прыстойнай. Проста аб зарплаце. Праўда, яе мне рэгулярна даюць. Пятага і дваццатага. А я зноў і зноў хачу - зарплату. І замуж. Дарэчы, пра мужа. У яго справы яшчэ горшыя. Ён працаваць хоча. Сядзіць на рабоце з дзевяці да шасці, прыходзіць пахмурны, як прусак.

«Разумееш, - кажа, - я працаваць хачу!» А я замуж! Ды што там замуж! Проста жыць хочацца. Не, я, безумоўна, жыву. Але хіба гэта жыццё? Ды д'ябал з ім, з гэтым жыццём! Хачу замуж!

Пераклаў з рускай
В. Бабей

## У ЧАКАННІ БУСЛА

- Хачу сястрычку! -
змалку маці
прасіў я напрамілы Бог.
І доўга плач стаяў у хаце -
ўсё супакоіцца не мог.
І ўжо бяда была такая,
што супакойвалі усе: -
Вясною бусел завітае -
табе сястрычку прынясе.
І верыў я, што мне не хлусяць,
і з хаты бег,
і ўсё глядзеў,
ці хутка ў небе ўскружыць бусел.
А бусел штосьці не ляцеў.
... Гады - нібыта электрычка -
пранесліся - як міг адзін.
Ужо просіць сын: -
Хачу сястрычку!
Хачу сястрычку! -
плача сын.
Гамідар гэтакі ўздыме,
што супакойваюць усе
: - Вясною бусел завітае -
табе сястрычку прынясе.
І верыць сын: яму не хлусяць.
Ужо ў неба вочы праглядзеў.
Ды толькі дзе той добры бусел!
Няўжо ён міма праляцеў?

АНАТОЛЬ ЗЭКАЎ

## КАЛІ ПА ШЧЫРАСЦІ

Аднойчы зімой нейкі паэт запрасіў свайго сябра на дачу, пасадзіў каля халоднага каміна і пачаў чытаць яму свае вершы. Сябра яго - чалавек далікатны - толькі дрыжаў ад холаду, але цярпліва маўчаў.

- Ну, як? - нарэшце, скончыўшы чытаць, спытаў паэт. - Добрыя, цёплыя вершы?
- Калі б у тваіх вершах хапала полымя, ці каб іх кінуць у полымя, дык у гэтым пакоі мо і было б хоць якое цяпло, - шчыра адказаў сябра.

УЛАДЗІСЛАЎ ВОЛКАЎ

## РАЗЕТКА НА «К»

**Управа:** 1/ свінская талерка, 2/ першы ў шахматах, а ў картах - другі, 3/ «памятка дзён, што ў нябыт уцяклі», 4/ мяшочак у нагавіцах, які можна набіць, 5/ месца, дзе калісьці беларусы прапівалі грошы, 6/ масляк інакш, 7/ прымацаваныя да абутку коцяць цябе па лёдзе, 8/ грудной дыхаеш, па лесвічнай ходзіш, а ў нарысаваную можаш упісаць літару, адгадваючы разетку.

**Улева:** 1/ каляровая і пахне, 2/ мае рукавы і можа яе зашпільваць на гузікі або замок, 3/ бой голымі рукамі родам з Японіі, 4/ тураўскі святы, 5/ арэх - зверху зялёны і калючы, а ў сярэдзіне - бардовы з яснай плямкай і гладкі, 6/ слова без суфікса і прыстаўкі, 7/ перад Чорным, 8/ коні яго не п'юць.

ядань

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.








„Niwa", ul. Suraska 1, 15—950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210—33
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.

Рэдагуе калектыў:
Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (в.а. галоўнага рэдактара), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał upływa 20 sierpnia 1992 r.

2. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100 % i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.